*Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся.*

1

# Дняпроўскія ўсплёскі.

Літаратурны зборнік Магілеўскай філіі „Маладняк“.





1927 г.

Магілёў—Беларусь.



# ПРАДМОВА.

Нечага, нават, казаць аб тым, што палітычна-нацыянальнае вызваленьне рабоча-сялянскіх колаў дало магутны імпэт будаўніцтву сацыялістычных элемэнтаў нашага саюзу, дало магутны ўзрост дзейнасьці пралетарскіх творчых сіл на ўзмацненьне сацыяльнай рэвалюцыі.

Аб гэтым сьведчаць нашы дні. Справа ў тым, што гэтыя нарастаючыя элемэнты новага жыцьця ва ўсёй разнакалёрнасьці, разнавобразнасьці, ва ўсёй сваёй дынамічнасьці нарастаньня больш як калі, цяпер прад'яўляюць свае правы на мастацкае афармленьне, і рэагіраваць на такія запатрабаваньні заўсёды прыходзіцца ў першую чаргу мастацкай літаратуры, якая зьяўляецца сродкам выяўленьня клясавых ідэй і інтэрэсаў.

Разумеецца, што толькі той паэт ці пісьменьнік зможа даць каштоўны мастацкі твор, калі ён асазнае ролю свае клясы, мэтаімкнённасьць свае эпохі і ўсёй істотай будзе адчуваць неабходнасьць удзелу ў пабудове новага жыцьця. А гэтым павінен зьяўляцца „Маладняк“— рабоча-сялянская грамадзка-літаратурная арганізацыя з вялікай і адказной гістарычнай задачай—выхоўвацца і выхоўваць у рабоча-сялянскіх мас пралетарскую ідэалёгію. А галоўным сродкам для гэтага— мастацкае слова.

І вось, рэалізаваць гэту задачу у практычнай сваёй дзейнасьці „Маладняк“ пачаў друкаваньнем сваіх твораў як па асобку так і цэлымі зборнікамі як асобных адзінак так і цэлых філій.

Да гэтага часу, амаль што ўсе філіі выдалі свае зборнікі. Наша-ж Магілёўская філія, за адсутнасьцю матар'яльных сродкаў, пры ўсіх сваіх магчымасьцях і жаданьнях, да гэтага часу ніяк не змагла выдаць. Цяпер жа пры сувязі з адпаведнай арганізацыяй, пры першай магчымасьці, мы пастараліся выдаць свой першы зборнік: „Дняпроўскія ўсплёскі“, і гэтым самым, хоць можа і на незначную частку, узбагаціць скарбніцу беларускай літаратуры. Магчыма, што цалком гэты зборнік не будзе вытрыман, дзякуючы якім-небудзь невялічкім хібам (фатаграфічнасьць у некаторых момантах твораў), але ўсё ж сучаснасьць нашых дзён палучыла некаторы адбітак ў гэтым зборніку.

Рэдакцыя.

**Юрка Лявонны.**



# Выпадак.

Апавяданьне.

Над Дняпром сонна павісла млявая ліпнёўская ноч.

З крыштальнай урны небасхілу мякка выліваецца хмялёвая вільгаць луннага сьвету.

Ён мяшаецца з чырвоным сьветам вогнішча, і ад гэтага—постаці мужчын, сідзячых тварам да месіка, робяцца празрыста-глыбокімі...

Часамі лёгка трашчыць сухое суччо ў вагні, па жоўтаму пяску шырокага берагу перабягаюць цені, няясныя, але прыкметныя сьляды вогнішча.

Ціха-ціха...

Ледзь чутны ўсьплёскі вялікай ракі, уздыхаюць і варушацца стагодзьдзі. Сінімі хвалямі бруяцца далёкія паданьні мінулага. Дзесь-ці за Дняпром, як відаць, заблудзіўся конь. Здалеку чуваць яго жалобнамоцны пакліч:

І-й-йо-го-го-го!...

Рассыпаецца на застыгшым лагу звонкае рэха.

... Мы ляжым ля цяпла ў трох. Сапрон Багунец, былы „Чонавец“, Амелька Гусак і я.

Гаварыць—неахвота...

Шкада самому кратаць роўную глыбіню аксамітнай ночы.

Ужо занадта бяскрайна яна, як само Дняпро ў павадкі...

А паслухаць—напрыклад Багунца—з вялікай прыемнасьцю!..

Залаты барытон бачыўшага „віды“ Сапрона так і просіцца ў душу... І „гісторыі“ яго заўсёды надзвычайна цікавы.

Я ляжу ў спакойным задуменьні і ўважліва пазіраю на яго.

„ У 20-м было...

На Кіяўшчыне... Калі „бацька“ Махно з сваіх тачанак граміў не шкадуючы „рідну“ Украіну.

Заліваліся буйнай крывёю здратаваныя палі...

У мястэчках і буйнейшых сёлах удалыя махноўцы цалком вырэззалі жыдоўскія сем'і...

У Кіяве, на Крашчаціку, весела пазваньвалі белагвардзейскія шпоры. Тама—гулялі!..

Стаялі мы паўэскадронам з 1-ай коннай, тры дні ў адным хутары...

Тыповы, трэба вам сказаць, хутарок быў!..

Вішнямі абсаджаны, халупка-мазанка, усё, як належыць!..

Тады-ж як-раз і гаспадыня прыгожая трапілася мне...

Памятаю—Аксанай звалі...

З сябе—поўная такая, і што асабліва ў памяць, дык гэта бровы яе... Зьвядзе іх у мейсца, на лобе сьцежка глыбокім равочкам ляжа і вочы маланкай наскрозь цябе так і проймуць!...

Вясёлая была... э-эх!!...

Засьмяецца, дзёрне плячыма—дык і Астапенка—старшыня эскадронны наш—навошта сухі чалавек быў!—не вытрымае. Ах плюне, сабачы сын (пачуцьця баяўся!), і ад усёй душы скрыгане:

— Ну, й баба!... Сакол, хвароба яе вазьмі...

Не хвалячыся скажу—найбольш увагі зварачала яна на мяне.

Праўда, я тады на гармоніі крыху падыграваў, ну а наконт песьняў—мастак і зараз, як ведаеце!..

Пастаялі гэта мы каля Рошчыцы тры дзянькі--не забыцца мне аб іх ніколі!..

А пасьля—расплыліся чуткі—лазутчыкі прынясьлі—быццам адзін з атаманаў-махноўцаў, самы люты, Галынскі, здаецца, па прозьвішчу, залёг у 20-х вёрстах ад хутара нашага і чакае папаўненьня ад „бацькі“...

Напярэдадні як раз хлапцы яго злавілі на дарозе браварніка; забілі, пасадзілі голага мерцьвяка на пень і на грудзёх крыж выразалі...

І вось—раніца росная, як гавораць, ёдкая, сонейка не ўсходзіла яшчэ...

Моцна пахла стэпам, бязьмежнымі прасторамі палёў, якія так разьлягаюцца толькі на Украіне...

Затрубілі збор.

Андронаў—камандзір—прамову яшчэ казаў...

Потым:

— На-а... коня-яў!.. З права па аднаму... рысьсю... аррш!..

...Наляцелі, абляглі вакол...

„Іхных“—сотня як-раз была.

У лашчыне, за прыгоркам, расклаліся лягэрам...

А на прыгорку—бярэзьнічак...

Бярозы стромкія, цёплыя, нібы дышуць у тонкім тумане ранку. Ціха шастаюць даўгімі рукамі—веццем...

З бярэзьніку і грокнулі.

Спачатку—з маўзэраў, залпам.

Потым Андронаў з лепшымі, проста ў сярэдзіну ўскочыў і ў шашкі...

Між іншым тама і забілі яго; пад капыты трапіў...

Праўда і апрача яго—нашых мала адтуль вярнулася...

Галынскага-ж разьнясьлі ў пух.

І самаго яго, хоць і біўся, як чорт, жывым узялі.

Паглядзелі мы на атамана гэтага і дзіву даліся...

Мужчына—куды нявідны, а якую паніку наводзіў!..

Маленькі, крываногі, з бяльмом, а сьмелы да шалёнасьці..

Можа-б і не даўся ён у рукі, каб Андронаў перад тым, як ляцець с каня, не рубануў яго шашкаю па галаве.

Толькі густая шапка чорных валосьсяў і адратавала...

Прывязалі Галынскага рамнямі да сядла, ногі да жывата конскага прыкруцілі ды і паехалі назад у хутар, бо застаўся тама старшыня эскадронны з некалькімі людзьмі ля кулямётаў...

Прыехалі к вечару—у крыві, азьвярэлыя і брудныя.

Парадзіліся і вырашылі:

— Галынскага дапрасіць „асабіста“, потым, як гвалтоўніка і бандыта, ворага рэвалюцыі, як толькі ўзыйдзе раняшняя зорка— растраляць.

Сьцерагчы-ж атамана, зьвязанага і кінутага пакуль што ў пустую клець на двары выпала мне...

І зьляцела ноч на зямлю...

Вішні як-раз цьвілі тады.

Хваляваў пачуцьці пах-мядова-салодкі, прыемны.

Цяжка стаяць было на варце.

Лютая бойка давала сябе адчуваць, хацелася спакою, адпачынку; млелі жылы, здавалася, пераліваецца ў іх замест маладой крыві— цягучая, расплаўленая медзь.

Захацелася яшчэ схіліцца на прыпол, да каленаў любай дзяўчыны, забыцца на момант аб варожым абкружэньні, неабходнасьці зірка ўглядацца ў нямую ночку...

Сьпяць малайцы нашы.

Толькі чутна—некаторыя раненыя часамі стогнуць, вады просяць...

Стаю гэта я ля дзьвярэй клеці.

Варушыцца Галынскі там.

Аж скрыгоча, зубы сьцяўшы.

Сыпле праклёны, матам крые „бальшавіцкую сволач“...

Стаю гадзіну, мусіць дзьве, хутка зьмена караулу павінна быць.

Чакаю развадзячага Ушкіна, што заместа забітага Андронава застаўся камандзірам.

Паглядаю, скрозь сон і бачу:

З-за прасла, што двор абгараджвала, белы цень вынырнуў

Льлюцца з яго зялёныя праменьні месіку—набліжаецца - вось і разглядзець можна.

Жанчына—ў адной сарочцы, валосьсе распушчана, вочы бліскавіцамі гараць ці то ўласным сьветам, ці ад месіку...

— Што за чорт?..

Узяў вінтоўку на руку:

— Хто йдзе? Страляць буду!..

Гляжу—далей рухаецца...

Анямеў...

Аксана—гаспадыня—ідзе, як зачурованая!..

— Сапрон... Ты бачыш...

А сама цяжка-цяжка дыхае. Хвалюецца.

Высокія грудзі вышываную сарочку так і ўздымаюць—выскачыць хочуць...

— Я да цябе зноў, як раней... Што хочаш... Толькі—выпусьці Галынскага... Зрабі, каб уцячы ён змог!..

Тута і сон адляцеў ад мяне.

— Гэта ты чаму-ж?.. Ды якая табе справа, урэшце?..

— Сапрон... Мяне ты не меў яшчэ .. Дарма круціла. Ты... Потым—мы з табою ў садок...

— Не, не, адыйдзіся, Аксана!.. А то...

— Паглядзі-ж на мяне... Ці бачыў ты калі-небудзь у жыцьці прыгожых такіх?..

Сьцягнула з пляча крутога сарочку...

Стаіць, як той мармуравы помнік на магілцы Сенажэцкага, ля заводу—ведаеце?..

Сапраўды, на дзіва прыгожая, як сотня ведзьмаў... Малюнак, а не баба!..

Загарэўся я, праўда... Узьняло істоту нешта агнявое, спрадвечнае...

Зацьвіліся ў вачох пялёсткі...

А навокал—вішні, вішні...

Пах...

— Не за сябе, за мужа, Галынскага, прашу... За атамана вернага майго!.. Дзеля яго—і абиімкі ў падарунак табе...

Як сказала гэта, раптам на мяне нібы вадою сьцюдзёнай лінулі...

— А-а-а... Вось яно што!..

Прыцэліўся...

— Адыйдзіся, Аксана!.. Не жартую... Чуеш?.. Страляць буду...

Кінулася яна тута, як каршун які, да мяне—задавіць, пэўна, хацела...

Ды не трапілася!..

Пацікнуў курок я...

Як птушка падстрэляная, плёснула рукамі-крыльямі Аксана ды без крыку ля ног маіх і лягла.

Скрозь самае сэрца пуля праняслась...

На стрэл хлапцы повыскаквалі—агледзіліся.

Расказаў я ім...

А праз некалькі хвілін вывелі Галынскага на растрэл.

Чуў ён размову нашу...

І такі ў яго твар страшэнны быў, што нават у вочы глядзець яму ніхто не асьмеліўся.

Бляды, бляды... Валосься—ва ўсе бакі... Вочы сіняй крывёю наліліся.

Вывелі—разьвітацца дазволілі...

Паваліўся атаман на жонкіна цела—цёплае яшчэ—прыпаў вуснамі, ды як зараве дзікім голасам, як ваўчыца, калі заб'еш пры ёй дзіцёнка яе... Ледзь вытрымалі мы.

Пасьля—у аднэй ямцы і пахавалі іх"...

Багунец скончыў.

Паціху разьвіднела...

З Дняпра вольна дыхаў ветрык—лёгкі і радасны, як першая любоўная пяшчота.

Сіняватай эмалью паглядала неба...

Мы з Амелькам ляжалі, поўныя адчуваньняў, перанёсшыся думкамі ў сьветлую рамантыку мінулага.





# У сугучнасьці слоў...

Над прасторам балот
расьцілаўся туман,
расьцілаўся туман
ды пялёсткамі.

Нызаў вецер парой,
цалаваў вербы стан,
цалаваў вербы стан
буйным лёскатам.

У гэту сінюю ноч
калыхаліся вакол,
калыхаліся вакол
песьні восені.

З перазвонам густым
зачараваны дол,
зачараваны дол....
Вёска ў просіні.

Песьні любыя мне
ў цёмнасіні прыпол,
ў цёмнасіні прыпол
пасыпаліся.

А ў гэту вясну
ў чырваніцьці вакол,
ў чырваніцьці вакол
сталі далі.

І зязюля пяе
у зялёным бары,
у зялёным бары
пералівамі.

І гармошка гучыць
ад зары-да зары,
ад зары-да зары...
што за дзіва?..

Там жа рогат дзяўчат
так чаруе хлапцоў,
так чаруе хлапцоў
разнаколерам.

Нечым новым парой
расхвалюецца кроў,
расхвалюецца кроў,
жытным полем.

Гэты гоман хлапцоў
сьпеў вясёлы дзяўчат,
сьпеў вясёлы дзяўчат
зачароўвае.

Я ў сугучнасьці слоў
люблю слухаць тады,
люблю слухаць тады
**нешта новае!**

Балотня. 30/VI—26 г.



## Маяк.

Далячынь,
Далячынь...
і маяк

Пацалункам
упіўся
ў неба

І наземіць
пялёсткамі
мак

Цёмна-шэрую
ў просіні
глебу.

Неяк конь
заіржаў
ля асіны,

Каўзанулася
рэха
грунём.

Помню вечар
кудравісты,
сіні

Запаліў маё
сэрца
агнём.

Пунсавелі
нудлівыя
далі

У маркоце
стаялі
гаі.

Казыталіся
думкі,
палалі,

Жыцьцявеялі
ў сэрцы
маім.

І люба было
ў неўгамоньні

Супыняць
у грудзёх
сэрца-бой,

Адхінаць
цёмнай сіні
далоні

Ды упіцца
жыцьцём,
барацьбой.

І цяпер
далячынь,
далячынь!..

І наземіць
пялёсткамі
мак.

Усьмехаюся
я ідучы —

У даліні
прывабляе
маяк!

25/XI—26 г.



# Адна.

Варажыла сёньня,
варажыла ўчора
ў цёмнасіні вечар
пад вярбой,

Наліліся думкі
ціхім перакорам,
а у сэрцы радасьць
ўспыхвала парой.

Сумавалі вербы,
усьмяхаліся далі
шапацелі лісьця
верхавін,

Думкі ў маркоце
радасьцю палалі
разсыпалі радасьць
ў цвет калін.

Паджыдала друга
ў тэй сіні вечар,
сэрца загадала
варажыць.

Месячак таксама
варажыў аб нечым,
супыняў свой погляд
на мяжы.

І з усьмешкай горкай
паглядзела ў далі,
не дастала вокам
сіні дна.

Струны ціха, ціха
на мінор сьпявалі
паглядзела—пуста...
зноў адна.

2/XI—26.



* * *

Сінь васількова́я.
Далі іскрыстыя.
Цьвецень кляновая.
Рань прамяністая.

Шэрань у просіні
раньню закована,
Ў прозалаць восені
думкі заснованы.

Ізноў пералівы
пунсовага раньня,
Восень гульліваю
постацьцю маніць.

Думкі у восень
палошчуцца ў лісьці,
Радасьці косы
праносяцца сьвістам.

Прошлае сёньня
туляецца ценьню.
У чырвань адзеты
мае лятуценьні.

Дык чаму маўкліва
пунсавеюць далі,
Дык чаму на дзіва
зазьвінеў мінор?

Маё сэрца кадзіць
перазвонам мая,
Дык чаму у раньні
'шчэ смуткуе гай?..

Мо' таму, што ў сэрцы
чырвані каханьня
Завіліся смуткам,
смуткам у грудзёх?

Мо‘ таму журбою
спавіліся далі,
Мо‘ таму і сьлёзы—
—дробныя каралі?..

Мо‘ таму і раньня
васількові вэлюм
Вэлюм васількові
сьцеле ў далавах?..

Ой, нашто так раптам
хваляваць парою,
Хваляваць парою
думак сіні бор.

Жменяй лепш рассыпаць
радасьць васількову,
Васількову радасьць
іскаркамі зор!

Сінь васільковая.
Далі іскрыстыя.
Цьвецень кляновая,
рань прамяністая.

Далі маўклівыя
у росквітах цьвецені
Сэрца сагрэтае
ў радасьць заплецена.



Сосюра[1])

# Іду.

Пад сьпевы вёсен і гадзіны
У просіні схіліўся мак...
Ў вішнёвым моры, Украіна,
Не разьлюблю цябе ніяк!

У цэнтры я. А вецер вые,
Жартуе з кветкамі калін.
Я бачу—рогат індустрыі
Ужо працінуў твае палі.

О, стэп мая! Не першы я
Дзіўлюся гоманам тваім,
Калі дратуюць кроў і нэрвы
Жалезна-крылыя раі.

АВІО шум і звон над гаем
Усё неўгамоннае: „гу-гу“.
І з песьняй новаю над краем
Я не зьвярну з свайго шляху.

Збыліся сьветлыя надзеі:
З другімі першы у раду
На буйны рогат індустрыі
Хадою цьвёрдаю іду.

Я цёплай радасьці не кіну.
Сягоньня першы мой пачын.
Ужо безгамоньне Украіны
Зьмяняе гул і звон машын.

Жыцьцё ляціць у сіні далі,
Калыша векавы палын,
Ляціць усё далей і ўсё далей
Ад чумакоў і ад валоў.

АВІО зграямі над краем
Паветра сіняе сьвідруе.
І дзядзька сьвіту прамяняе
На цёмну блузу завадзкую.

І цёплай радасьцю сагрэта
Ў вішнёвым моры Украіна.
Так. Блізка шэрых вякоў мэта.
Прымі, прымі вітаньне сына!

Магілеў 8/X—26 г.

---

[1]) Пераклад з украінскай паэзіі (часопіс „Всесвит“ № 10).

**К. Губарэвіч.**



# У вечар маўклівы.

(Апавяданьне).

I.

Зоська—артысткай сёньня. Першы раз у сваім жыцьці выступала на сцэне. Можа б яна і не выступала, каб не гэты Міхась. З яго намусту ўсё. Прыехаў з гораду на летнія вакацыі і пачаў сьветам вірадаваць. Перш на перш спэктакль паставіць уздумаў. І вось нешта ў нядзелю апасля камсамольскага сходу, ён з хлопцамі пачаў вызначаць ролі па п'есе. Усё так добра спачатку пайшло, але не хапіла аднэй дзяўчыны. Доўга думалі, каго б тут змабілізаваць, і пэўна не дадумаліся-б, каб Янка Паўлючонкаў, хлопнуўшы ў ладошкі, не падскочыў к сядзеўшай у кутку Зосі.

— Тапор шукаем, а ён пад лаўкай!—радасна крыкнуў ён.

— Во хто ў нас ролю выканае!..

Усе разам азірнуліся на Зоську і разам неяк схамянуліся: і як раней не прыкмецілі яе?..

Зоська спачатку засаромілась, пачырванела, як Міхась пачаў угаварваць яе, адмаўлялася, што найміцтва яе перашкаджаць будзе, што не сумее, але не, ці ад іх адгаворышся... Куды там... Прышлося згоду даць і вось за некалькі рэпэтыцый і падрыхтавалі к сенешняму дню спэктакль.

Калі Зоська прышла грыміравацца, то людзей поўна школа была ўжо (і сцэна ў школе была). Прайшла ў асобы пакойчык, дзе артыстыя зьбіраліся. Там ужо артыстыя былі ўсе і ў нэрвовай гарачцы рыхталіся. Міхась, чуючы адказнасьць за ўсю пастаноўку, бегаў, па ўсіх куткох, зьбіраючы: то лямпу, то зэдлік, то стол на сцэну. Убачыўшы Зосю ўсьміхнуўся прывітальна...

— Сама галоўная артыстка ёсьць, значыць, пачынаймо...—спаткаў яе Міхась...

— А-а, Зоська!—крыкнула Ганна, хварбуючы сабе бровы...

— Хутчэй падкрашвайся, а то зараз пачынаем!..

— Я-ж не ўмею сама...

— Сядай, я цябе размалюю,—прапанаваў Міхась.

Зоська прысела каля стала, і Міхась пачаў падводзіць бровы ёй.

Ад пяшчотнага адчуваньня на плячы яго цёплай рукі і блізкага дыханьня Зосьцы рабілась неяк не па сабе. Ніколі яна так не адчувала сябе.

Нават і вочы баялася ўзьняць кверху. Толькі лёгкая чырвань палыхала па твары. Перад вачыма толькі шырокія грудзі былі ды чуць-чуць закацісты падбародак з ямачкай віднеўся. Міхась гэта даўно прыкмеціў і тож траціў роўнае адчуваньне... Хоць і прыемна яму гэта блізкасьць была. І прыемнасьці гэтай пачатак не тут быў... Даўно, як толькі прыехаў на вакацыі, прыкмеціў ён Зоську, і яна яго. На сходах, дзе Міхась ці даклад рабіў, ці так выступаў, часта ён лавіў на сабе яе ўпарты пагляд з кутку адкуль-небудзь...

Ці, спаткаўшысь дзе, Зоська старалась хутчэй-ба разьмінуцца...

Міхась, хоць і больш сьмялейшых у горадзе бачыў, але гэта некранутасьць Зоські, яе асаблівыя адносіны нейкія да яго, больш, як калі, спынілі ўвагу Міхася. Бачыў ён нераспылёныя жыцьцёвыя сілы...

І вось, так цікава было яму, штоб Зоська выступіла на сцэне...

А Зосьцы яшчэ цікавей было акунуцца ў нешта новае...

— Падніміка к верху вочы, я абвяду іх,—сказаў Міхась, ўзяўшы яе за падбародак.

— Навошта?..

— Ды трэба, што б прыгажэй была...

Падумаўшы трохі, Зоська ціха ўзьняла вочы і, спаткаўшысь з Міхасёвымі, густа пачырванела і апусьціла ўзноў...

— Ды чаго ты баішся...—усьміхнуўся пяшчотна ён узноў, паднімаючы к верху яе тварык.

— Ай, пусьці ты...—адскочыла ў куток.—Добра і так...

Усьміхалась толькі вінавата. Яны былі ўдваём, і Міхась любаваўся яе замяшацельствам, стоячы абпёршысь рукой на стол... Не прыкметна выпаў з лёгка-дрыжачай рукі памазок, што грыміраваў... Далі трэцьці званок...

А летняя ночка хутка ляціць. Трэція пеўні прапелі ўжо, калі скончыўся спэктакль. Абвясьцілі вечар зачыненым, і ўсе сталі разыходзіцца...

Зоська, пакуль справілася, то выйшла апасьля ўсіх.

На ганках Міхась спаткаўся. Усьміхнуўся.

— Можа адна баішся ісьці?..—Уздрыгнула.

— Чаго баяцца...

— Пойдам разам...

— Хадзем сабе...—Шлі моўчкі. Не ведалі з чаго пачаць гутарку...

А казаць многа было аб чым... Зоська выканала сваю ролю на дзіва проста. Нечакана. Дарма, што першы раз. Хоць і блытала часта словы, гублялася спачатку, але так захапілася ігрой, што забылася, дзе яна... А колькі было воплескаў і зьдзіўленьня, што Якубава наймітка артысткай зрабілася. І вось, ідучы дамоў, Зося ўспаміназа кожнае слова, кожны рух ігры сваёй і ціха ўсьмяхалася.

— Што табе так весела?—спытаўся Міхась.

— Так. Цікава.

— Што ігрinfluence?

— Ага...

— А ты-ж не хацела...

— Не ведала...

— Яно скрозь так. Тое і прывабна і страшна, чаго не ведаеш, а пачнеш спазнаваць і цікава тады. Мяне змалку хоць забі было, так я не хацеў вучыцца, а цяпер і за вуха не адцягнеш.

— А доўга ты яшчэ будеш дома жыць?

— Можа з месяц.

— А тады зноў у горад.

— Але, не дужа весела нешта тут—усьміхнуўся Міхась, глянуўшы ў вочы Зоські.— Паеду, брат.

— Там весялей, мабыць?..

— Ого, ты не ведаеш яшчэ... —задумленна сказаў Міхась.

— Давай прысядам тут пад страхой,—прапанавала Зоська, падыйшоўшы к Якубавай хаце. Селі. Міхась расказаў ёй аб сваім жыцьці ў горадзе, аб яго кіпучасьці і многаграннасьці, што захапляе ўсю істоту чалавека, калі ён пападае ў гэты вадазварот.

Расказаў аб новых людзях, новых перажываньнях, думках і... доўга б яшчэ гаварыў ён, каб не пачало разьвідняць ужо. Зоська гатова была яшчэ слухаць столькі, але трэ' было на жніво рана ўстаць...

Нехта кашлянуў за воротамі. Зоська схамянулася.

— Пэўна Якуб...

— Ну, пойдам, брат, досыць на гэты раз...—Моцна пажаў ёй руку, ласкава зірнуўшы ў вочы. Пайшоў. Адчувалась ў грудзёх паўната і разгоннасьць нейкая... Хоць ты крыкні на ўвесь сьвет...

А Якуб усё гэта чуў, стоячы за варотамі... Бачыў, як яго наймітка хлопцаў водзе. Дык што-ж, у вочы ёй за гэта глядзець?..

— Ідзе цябе чэрці носяць да самага раньня?!—крыкнуў ён на Зоську, як толькі тая ўзышла на двор.

— А табе што за дзела?

— Як гэта „што за дзела?!“ Табе толькі абы плату палучаць, а як работаць, дык лепей з хлопцамі валачыцца!.. Разбырыла ты дужа. Вы ўсе толькі і глядзіцё цяпер, каб вам патуралі, не прымушалі работаць па сьвятах, ды яшчэ якую трасцу... але хваробы вам...

Зоська, нічого не кажучы, прайшла ў каморку і прылягла хоць крыху адпачыць... Сабрацца з думкамі... Неяк так усё нечакана... Так нова... і Міхась... і спэктакль... і перажываньні...

А Якуб усё яшчэ крычаў, хоць не столькі за плату, колькі хацеў выліць даўно накіпеўшую злосьць на яе...

Апасьля бацькавай сьмерці, застаўшысь гаспадаром, Якубу трэ' было шукаць падмогу якую...

— Жанісь ты, мой сын!—часта казала яму матка. Як мы с табой управімся у гаспадарцы такой...

Якуб і сам гэта бачыў, што падмога трэба, але ніхто да яго не гарнуўся, не гледзячы на тое, што і багаты быў.

— Як з дурным квасам, дык лепей з вадой, — казалі часта дзяўчаты аб Якубу.—Што з яго багацьця, калі сам не любоцьця, толькі галаву з дурнем завязаць на век...

Зьневажалі яго і ўсе, а дзяўчаты асабліва. Быў ён, як кажуць, недапечаны нейкі. А ні гульні, ні жарты з яго. Хоць ён і не ведаў іх. Любы жарт ён гатоў за праўду прыняць. Толькі і было ў яго, што ганарлівасьці багацьцем сваім. Здавалася Якубу—усё зможа зрабіць, калі захоча... Ды не дужа-то... Колькі не рабіў ён заходаў, штоб падсватацца к дзяўчыне якой, але толькі сьмех адзін быў... Апасьля многіх такіх незадач, Якуб азьліўся на ўсіх, плюнуў і з палаючым нездавальненьем самалюбівай істоты, замкнуўся у самаго сябе.

У Старажытнішчы—вёсцы суседняй, жыла гэта Зоська. Сірата круглая. З малаленства работала ў наймітках па людзёх. Знаравілася к рознай працы ўжо. І кожны з ахвотай браў яе...

Вось і рашыў Якуб дагаварыць яе сабе ў найміткі.







— Вазьму—думаў ён,—няхай работае, а калі мала будзе, шчэ' каго небудзь найму, а к рознай галадзьбе падлізвацца не буду. Дагаварыў ажно на два гады зразу і на гэтым быццам і супакоіўся; тым балей, што Зося 'шчэ адным заспакаівала яго:—некранутай прыгожасьцяй, якую, нават, і цяжкае найміцтва не здолела змарнаваць за васямнаццаць год яе жыцьця. —Штож-думаў Якуб,—жаніцца я на ёй не буду, на чорта, а так, што захачу, то і рабіць буду з ёй...—Але памыліўся. Колькі ні рабіў ён заходаў, штоб ці пажартаваць, ці пагаварыць аб чым—куды там! і духу не падпусьціць. А гэта яшчэ больш калола яго самалюбства і падагравала імкненьне заўладаць ёй. А тут Міхась гэты... і чаго яго чорт прыгнаў... Нават найміткай сваёй і то ўсьцешыцца не даюць.

— Анціхрысты!—скрыпнуў зубамі Якуб, на ганак узыходзючы. —Не ўдасца ж вам...—Золак саромліва зачырванеўся і запалаў пераліўчатасьцяй рознаколернай. Першы жаўранак заліўся ў цішы белясавай... —Куды тут ужо лажыцца—падумаў Якуб. Пайшоў у хлеў і стаў хамуты на коні надзяваць, у поле араць ехаць. Доўгаваўтузіўся ён з конямі, пакуль запрог у плуг; лаяў, шмаргаў, нібы ва ўсім вінаваты яны былі...

— Прынясеце-ж сьняданьне ў поле, да абеда араць буду,—прыказаў матцы.

Добрае раньне было ўжо, калі матка з Зоськай управіліся каля печы. То сьвіньні, то цяляты, то тое, то сёе, а сонца вунь ўжо дзе было. —Ну нясі ж ты, мая дзеўка, сьняданьне Якубу, а то зачакаецца, сказала матка, наліўшы ў спарышы стравы. А Зосі ўсё роўна што было рабіць. Узяла і пайшла. Якуб здалёк яшчэ прыкмеціў постаць яе, прывярнуў коні к калёсам і прылег на мураўцы. Усьміхнуўся толькі. Думаў крыху мякчэй абыйсьціся сёньня з ёй...

— Маладзец, што парупілася...

— Баялась, штоб не змарнаваўся з голаду.

— Прысядзь, адпачні...

— Нічога, дзякаваць за ласку... —Але прылягла на мураўцы, як сьнедаць стаў Якуб. Прышчурыла вочы, гледзячы ў верх, ў сінядонныя высі... Накіп'ю бялясавай праплывалі часам кавалкі хмар. Весела неяк было ўпівацца ціхазвоннасьцю летняй сонечнай раніцы. Маўчала. Якуб увесь час пазіраў на яе з падлоб'я і чуць прыкметна ўсьмяхаўся.

— Ну, ці скора ты?—спытала нецярпліва.

— А ўжо канчаю, можаш гаршкі забіраць... —Абцёрся рукавом і аблакаціўся, млява пацягваючысь.

— Ты-ж глядзі, прыйшоўшы дамоў, клевер за пуняй растрасі...

— Даўно зроблена ўжо.

— Ну дык нажні коням травы, як прыеду абедаць...

— Яшчэ ўчорашняя ёсьць.

— Ну і маладзец ты ў мяне, да праўды... —Узяўся за руку вышэй локця...

— Калі ласка, без рук толькі!..

— А што там такое, сьвятая ты?..

— Ды і не хачу, штоб кожны лапаў, і так ужо збрыдзіў, як слата..

— Ці чулі, „збрыдзіў", а што я хужэй цябе?..

— Ды і не вялікая шышка; думаеш, калі наймітка, дык і кожны дурань можа ўладаць... выбачай... —Лёгкі паварот—і Зоська пайшла не азірнуўшысь нават. Старая злосьць і абіда гадам закапашыліся ў грудзёх Якуба.

— Пастой, гадзюка, я цябе праўчу яшчэ — падумаў Якуб, глянуўшы ўсьлед Зосьцы. Будзеш ты ў мяне малінавая...

Сьцебануў з усёй сілы коні і зноў пачаў араць.

Зоська ішла па распаханаму полю назад. Было неяк і агідна і абідна. Але нічога. Усяк бывае...

— Зоська!—крыкнуў здалёк Янка Паўлючонак, едучы з плугам.

— Што табе?!

— Пачакай!

— Некалі, брат, сьпяшаюся; бачыш, арэць,—паказала на Якуба.

— Ну няхай арэць, а ты наработаешся 'шчэ...

— Эх, не будзь ты, брат, такая забарыстая!—сказаў дзед Андрэй, скародзячы каля дарогі сваю палоску. —Арэць, нехай ён кроўю сваёй арэць, дзіцятка маё. На яго ўвесь век, як і я запомню, людзі работаюць, а яно ўсё ў чортаву глютку ідзе: нікаму, а яму самаму. Толькі можа вясной пазыча з пуд які і то апасьля тры скуры зьдзярэ... Няхай-ба тут ён паработаў, на гэтай палосцы, што і завярнуцца нейдзе, ведаў-ба тады.

— Эх ты, матаня, варочайся!—крыкнуў ён на сваю кабылу, заносячы ў руцэ барану на завараце.—Пшла!.. Эп!..—Толькі зуб'я заскрыпелі, ды мяккі вецер разжартаваўся ў сівых косах...

— Тпрру—спыніў Янка каня, пад'ехаўшы.—Во што: Міхась прасіў сёньня вечарам, штоб сабраліся ўсе камсамольцы к яму, і ты, казаў, штоб прышла, аб чымсь то гутарыць будзе...

— І ўсё?

— І ўсё.

— Ну добра, мо' ты па мяне зайдзеш, як будзеш ісьці?..

— Зайду...

— Ну глядзі-ж.—Завярнулася і пайшла хутчэнька. Завярнулася, штоб не паказаць скрытае хваляваньне пры словах аб Міхасю...

Нескора, нескора надыйшоў вечар. Справіўшысь з усім, Зоська пачала рыхтавацца.—Дзе ж Янка той? казаў, што забяжыць, а яго і чуткі няма.—Доўга з нецярпеньнем пазірала ў вакно і ўрэшце выйшла на вуліцу.—А-а, бяжыць ткі.

— Ну пойдам!—махнуў ён Зосьцы здалёк рукой...

— Чакай...—Сабраліся ў садку каля Міхасёвай хаты. Усе ўжо былі, нехапала толькі Янкі з Зоськай.

— Ага,—прывітальна спаткаў Міхась іх,—вось і ўся наша капэлія...

— Ну, пачынайма, брат,- прапанаваў Зьмітрок,—а то на начлег зьбірацца трэба ісьці.—Зоська, цяжка дыхаючы ад скорай хадзьбы, прысела каля дзяўчат на мураўцы. Адламіла з куста кветку. Зірнула украдкай на Міхася і зьнянацку спаткала яго погляд... Пачала шчыпаць на кусочкі лісток..

— Ну добра, пачынайма.

— Даўней трэ'было-б.

— Дык во што, братцы,—пачаў Міхась,—заўтра, здаецца, нейкае сьвята, дзень у нас свабодны, я думаю работы дома не будзе ніякай ні ў каго, дык мне такая думка прышла: што калі б мы сабраліся ўсім гуртом ды пайшлі б нашай Лявонісе падкасіць лугу і жыта паджаць крыху... а?..

— О, гэта голас!..

— А і праўда, хто ёй паможа?!

— Даўней трэ'было б так зрабіць!

— Тым балей, што і наняць не за вошта, галыцьба такая...

— Ну як, згодны?..

— Ды й што 'шчэ і гаварыць!..

— Падымеце рукі!..—Некаторыя і па дзьве паднялі. Зоська тож падняла руку.

— Ну, дык, значыцца, заўтра ўраньні зьбірайцесь узноў сюды...

— І ўсё?

— Але...

— Добра... І ты, Зоська, з намі заўтра ідзеш? спытаўся Зьмітрок.

— Ага...

— Маладзец!.. А Якуб пусьце?

— Я і прасіцца не буду ў яго...

— Ён не мае права прымусіць у сьвята работаць,—дабавіў Міхась.

— Тады мы яму талакой тож паработаем калі-небудзь,—пажартаваў нехта. Дружны рогат ускалыхнуў вячэрнія змрокі.

Дзень быў ціхі і сонечны. Цэлай грамадой пасунуліся хлопцы з дзяўчатамі ў поле. Сонечны блеск, зьліваючыся з блескам кос і сярпоў, залаціў празрыстасьць раніцы. Весела было ўдыхаць у маладыя грудзі ціхавеі росныя.

— Ага, і цётка Лявоніха тут.—Яна пасьвіла на павадку сваю кароўку на мураўцы каля дарогі.

— Куды ж вы такім натоўпам ідзіцё?—спыталася.

— К вам на талаку...

— Ка мне?

— Ага, пакажэце ка дзе вашы палоскі з жытам стаярослым...

— Няўжо і праўда?

— Штож, жартаваць некалі...

— А, дзетухны вы мае, як гэта вы ўздумалі спагадаць на гора маё?!..

— А хто ж вам паможа...

— Ды яно так, мае дзеткі, цяжка, ой цяжка людзкой дапамогі дабіцца, але ж ёсьць яшчэ людзі добрыя.—Прывязала к праслу карову і таропка пабегла паказваць палоскі свае.

— І па век вам дзякаваць буду за ласку вашу, мае дзеткі, толькі выбачайце, я ўжо не прыду дапамагці вам сёньня, бо, можа, і грэх мне ў сьвята будзе, хто яго ведае...

— Нічога, справімся адны, не клапаціцесь!..

Дружны ўзмах сярпоў зрушыў кволы шопат сьпелага жыта... Закіпела работа ў руках маладых. Увесь дзень залатыя жытнёвыя пераклаты трывожыліся песьнямі ў звонкай напорнасьці кос і сярпоў. Хлопцы касілі ў лашчыне, і калі дзяўчаты дажыналіся да іх,—перакідавались вясёлымі жартамі адбіралі збан з вадой адзін у другога і так непрыкметна да самага вечару. Калі сонца, сонна лыпаючы з-за лесу доўгімі прамяністымі векамі, пачало зажмурвацца, дакончылі на полі работу. Частыя ababki ды пакосы сьведчылі аб гэтым. Зьмітрок звонка ляпнуў бруском па касе:

— Ну, зьбіраймася, братва, хадзем ужо..

— Зараз, толькі снапы паставім...

На раскосе сабраліся ўсе.—Во, гуляючы, амаль падрэзалі ўсё багацьце Лявоніхі...

— Эх, і добра перад вечарам касіць як; здаецца, яшчэ столькі прапёр ба, каб было!—разыйшоўся Зьмітрок..

— На дакоскі, кажуць, качаюцца!—крыкнула Ганна, таўхнуўшы яго на пакос.

— І на дажынкі тож!—хапіў Зьмітрок за руку яе. Паваліліся абое на пакос. Узьняўся сьмех, і дзяўчаты кінуліся ратаваць Ганну, і ўзваліліся на Зьмітрака.—Ратуйце, хлопцы!—крычаў ён з паднізу.

— Сюды!..—Янка падбег было, але Тадорка так лоўка штырыла яго, што аж нагамі накрыўся.—Ага, пастойце ж!—Падхапіўся Янка, схваціў

збан з вадой і бухнуў яе на ўсю кучу... Дзяўчаты ўзьнялі піск, сьмех і разьбегліся ва ўсі бакі...

— Ах, штоб на вас паветрыя... Чуць не заціснулі... во бочкі...—Чухаўся Зьмітрок, падняўшысь... Стаў выкалачваць з-за пазухі траву, што напхалі дзеўкі...—Пастойце-ж...

— Ну, годзе ўжо, пойдам,—пазваў Міхась,—а то цямнее...—Усе, расчырванеўшыя, і цяжка дыхаючы, сабраліся ўзноў у кучу.

— Айда... Янка, запявай-ка якую... Ну!.. Янка адкашляўся... Узьнялісь высока расхрастаныя грудзі і... шырокая вясёлая песьня адбудзіла сінявокія далі... Дружным хорам падхватвалі і, здаецца, уся чаруючая цішыня вячэрняя змоўкла, заслухаўшысь... Мяккія ціхавеі лашчыліся к маладым грудзям і яшчэ больш падлівалі разгоннасьці ў іх... Зосьцы трэ' было зьвярнуць к Якубаваму хутару. Міхась знарок прыпыніўся крыху ззаду, і, калі Зоська завярнулася на сьцежку, яны ўдваём няпрыкметна адлучыліся ад грамады...

У гэту цёплую летнюю ноч Якубу не спалася... Двое сутак амаль што Зоську не бачыў... Сёньня сьвята, і ён блытаўся па ўсіх куткох, не знаходзячы сабе прытулку. Навязаўшы на атаве коні нанач, Якуб падышоў к дому і стаў каля прасла. Абпёрся. Пахмурна ўставіўся куды-сь то... Прыкра неяк было...—Хоць ба хто добры, а то наймітка, і тая глядзець не хочыць—падумаў Якуб...

Сьцяў зубы, моўчкі прыслухоўваючысь к сьвісту перапёлкі ў межах жытнёвых.

Доўга прастаяў ба так, каліб не пачуўся дзесьці шопат. Схамянуўся...

Прыслухаўся...—Так.... Яна... Зоська з Міхасём... пад страхой сядзяць...

Падпоўз асьцярожна к вуглу і прысеў... Чутна было ўсё... Яна ціха скардзілася на Якуба, на паднявольнасьць сваю... Міхась угаварваў яе кінуць Якуба, ехаць у горад з ім, жыцьцё перамяніць сваё. Доўга яшчэ шапталіся яны, пакуль да Якуба не даляцеў пацалунак... Як варам хто лінуў на Якуба... Злосьць і зайздрасьць гарачым чым-сь то ў грудзёх лізнулі... Глянуў з-за вугла... Зоська ішла ўжо на двор... Прытуліўся. Прайшла, не прыкмеціўшы. У сяньніцу завярнулась (спала там). Якуб упарта глядзеў усьлед ёй... Нешта шавальнулася ў грудзёх і да салодкай млявасьці ў мазгі каланула... Кроў, нібы спалоханая, ходарам захадзіла. Пацягнула к варотам...

А Зоська ўжо ляжала, цяжка дыхаючы. Твар гарэў проста...

Думкі нельга сабраць было да кучы... Так гэта проста і скора зразумелі яны адзін другога... Угавор зрабілі: толькі адслужыць яна гэты год, а тады... прашчай і Якуб і найміцтва... Асьцярожны скрып варот спыніў разгарачоныя думкі яе...

— Зоська—ціха пазваў Якуб. Зося маўчала. Толькі сэрца малатком застукала...

— Зоська,—гукнуў у другі раз. Ні гуку. Якуб накіраваўся прыблізна туды, дзе яна ляжала. Стаў мацаць па сену. Зося думала рванухца к варотам, ды ўжо... недалёчка Якуб... вось... вось... Яшчэ адзін крок, і... цэпкія пальцы ўпіліся ў плечы... Зося рванулася, хацела крыкнуць, ды не тут то... усьпеў зажаць рот...

Да абеда не выхадзіла Зося з сяньніцы... Толькі плечы ўздрыгвалі...

— Што рабіць цяпер?—Бязьлітасна ціснула ея пытаньне гэта...

— Кінуць яго—плату не аддасьць, ды ісьці некуды... Застацца?—толькі сэрца пахаладнела... Доўга шукала яна ў думках выйсьця і ніяк

не змагла знайсьці... Толькі вочы ад сьлёз напухлі, ды ў галаве кружылася ўсё...

Матка колькі раз прыходзіла звацьа ні слова...

— Што з ёй такое?—запыталася яна ў Якуба... Хітра усьміхнуўся...

— Захварэла можа... Я ж не ведаю... Але жыва будзе...—Не стрымаўшысь, раскаціста засьмяяўся...

— Чаго ты нешта!?—падазрона паглядзела ў вочы Якубу.—Ой, глядзі, мой сын...

— Нічо-ога...

*Урэшце Зоська ўстала з цьвёрдай і цяжкай рашучасьцяй—застацца ў Якуба, а калі будзе дзіцё—падаць у суд. А перад Міхасём апраўдаюся... Ён зразумее мяне... Але не, як пераяжыць гэта, як перанесьці агіду?—Яна сама не ведала...*

II.

Пацягнуліся дні шэрай ніткай. Міхась нечакана неяк у горад паехаў. Сьпешна адазвалі чагосьці. Зося быццам узрадавалася крыху: мо, хоць ён не будзе ведаць аб яе няшчасьці. Можа ўсё добра абойдзеца... Але супярэчнасьці нейкія калолі сэрца.—А што калі не... а што калі дазнаецца Міхась?...—Мімавольна сьціскаліся грудзі, і халодным раўчачком трывога сачылася ў іх... Дзён праз пяць зусім нечакана ліст ад Міхася прыйшоў...

Хоць і кепска чытаць магла Зося, але разабрала.

„Зося, па справах мяне вызвалі ў горад. Не ведаю, ці скора дамоў прыеду. Я многа чаго хацеў яшчэ сказаць табе, ды сама бачыш, не пазадачылась. Цяпер толькі адно: помні ўгавор наш. Адслужыўшы гэты год прыяжджай абавязкова, калі мне самому не прыдзецца прыехаць па цябе. Паведамлю тады лістам. Я тым часам вучэньне скончу, і тады разам паработаем, акунёмся ў новае жыцьцё“... Зося не дачытала апошніх радкоў, брызнулі буйныя сьлёзы на паперу... Каб то ён ведаў? палыном разьлілася думка... і нешта шурпатае падкацілася к глотцы. Часы ляцелі. З кожным ўзмахам іх многа ў жыцьці мянялася.

Шалёны вадазварот гэтых зьмен даваў ведаць аб стромчатай напорнасьці іх. Гэтыя зьмены і Зосю захапілі. Папершае, яна адчула тое, што ніколі не адчувала—цяжарнасьць. Чорныя вочы яе патускнелі ў цёмных кругох, і ад ранейшай ружовай усьмешкі белая смага на губах засталася. Ну, а ад людзей, вядома, не схаваеш гэтага. Усяк загаварылі... Аднойчы ў нядзелю выйшаў Якуб на вуліцу. Пад Міколавай хатай на загаваліне мыжчыны сабраліся. Так, пагаварыць аб тым, другім.. І Якуб падыйшоў.

— Добры дзень...

— Здароў. Сядай у нас.

— Некалі.

— Што ты робіш цяпер?..

— Ёсь што...

— Чалавек сям'ёй абзаводзіцца, а ён пытае „што робіш“—пасьмяяўсь Тодар.

Якуб не першы раз чуў такія кпіны, і толькі злосьць разьбірала...

— Заваджусь, а вам што за дзела?—агрызнуўся ён.

— Ды нам то ніякага дзела няма, вось табе цяпер будзе дзялоў...

— Не шкадуйце...

— Ды які чорт цябе шкадуе, нам толькі дзеўкі шкода, што жыцьцё ты ёй змарнаваў... во што толькі шкода...

— Я праганю яе к чортавай мацеры, а ты забяры яе, калі шкода...
— Не, хваробы прагоніш ужо... Не задасца...
— Гэта не тыя часы ўжо,— дабавіў Яўхім.—Гэта калісь твой бацька рабіў з найміткамі, што хацеў; бывала чуць што і ў шыю, а цяпер не...
— Цяпер гэта паловай гаспадаркі яго пахне, як пад суд пойдзе...
— А не ў худое месца, сукінаму сыну, досыць пасмактаў чужую кроў...
— 'Шчэ каб самаго гады на два ў вастрог. Няхай ба прачухаўся...
— Усё роўна гаспадарка не запустуе, людзі абработаюць... Ён сотню пудоў хлеба распазычыў сёлета.—сказаў Мікола...
— Ну, гэта трасцу ўжо... Не прымусіць...
— Не радуйцесь вы так дужа,—залясkатала Якубава матка здалёк, стоячы каля прасла —Ён і не вінават тут можа...
— А хто, ты вінавата?—засьмяяліся ўсе...
— Цягалася ж яна з Міхасём, а што за імі сачыў хто?..
— Дык ты яшчэ на сына майго зварачваеш?—падняўся Міхасёў бацька.
— А што-ж, сьвяты ён?..
— Ах ты анціхрыст сухі!.. Я ж табе пакажу...
— Ага, спужалася, уцякаць пабегла!..—зарагаталі мужчыны.
— Іш!.. Чэрці вірлавокія!.. Цяпер бы завярнулі хвост... Ды не ўдасца...

Якуб стаяў моўчкі, міргаючы маленькімі вачыма з пад кучмы разклычаных рыжых кос. Толькі губы дрыжэлі, ды плясьнівы скуласты твар мяняўся ў колерах.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Быў васеньні маўклівы вечар. Дажджлівы вецер уздыхаў па завоканьню, паласкаў шыбкі мітульгой частай... Нудзілася надвор'е. Зося закалыхвала на ноч сына, а Якуб сядзеў за сталом. Сьціснуў рукамі расклычаную галаву і напруджана ўпіўся вачыма ў чорнае вакно. Як абухом хто загнаў думку ў галаву яму: не яго гэты сын, а Міхася мабыць... Цягалася ж яна з ім, а ці за імі хадзіў хто?.. А тут калі да суда дойдзе, дык мала не будзе. Разварушаць гаспадарку ўсю. А ці тады жыцьцё?... Доўга ён думаў аб гэтым ужо, да пажоўкласьці проста. Па цэлым дням іншы раз... Але сёньня, ён не звычайна думаў... З самага ранку ён, як аглуджджаны, сланяўся па ўсіх кутках і ніяк не мог за работу ўзяцца. Падойдзе к калысцы і стаіць... Стаіць, як прыгвожджаны, углядаючысь у сына глыбока ўпаўшымі вачыма. Адойдзе, сьцяўшы зубы. Сядзе каля вакна. Зірне блудліва то на Зоську, то на калыску. Да самага вечара прасядзеў так. Зосю халодным чымсь то спавівала трывога... Чула нешта сэрца.—Хоць-ба заўтрашні дзень хутчэй—думала яна. Ці тое, ці другое павінна быць, бо Міхась сёньня перад вечарам дамоў прыехаў.—За мной, мабыць,—думала яна цяжка дыхаючы. Дзіцё расплакалася. енчыла і ніяк не закалыхаць. Зося яго на печ... распавіла... нібы трохі змоўк. Зьлезла з печы, глянула на Якуба з нейкім унутраным страхам. Той сядзеў на лаўцы і ўважліва сачыў за кожным рухам Зоські... Пальцы дрыжэлі... Белыя куткі губ нэрвова дзёргаліся...

Зося запаліла лучыну і стала класьці ў печку дровы. Страшная патаёмнасьць Якуба напруджвала яе нэрвы і трывогу.

Якуб зьлез з лаўкі і таропка, спатыкаючысь, зашагаў к печы. Глянуў на Зосю, як цякач... Палез. Дзіцё ўзноў заенчыла, як павару-

шыў яго хто...—Чаго яго разьбірае?!—запыталася Зося, падыйшошы к печы.

— Не клапацісь... ньньніклапаціся... супакою...—спыніў яе Якуб перарывістым тонам голасу... Дыханьне цяжка-зацяжлівае...—Ідзі работай...

Зося адыйшлася, але трывога яшчэ больш сьціснула сэрца абцугамі... Дзіцё ўзноў зайшлось... закашлялася і замест плачу пачулася надрыўная хрыпата прыдушанага крыку... Разам чутна было частае з перарывамі дыханьне Якуба. У Зосі ёкнула сэрца... дравіна з рук вылецела... Хапіла гарэўшую лучынку, ускочыла на печ, і... нейкі шалёны вадазварот калыхнуўся ў грудзёх, холадам абвіўся каля сэрца... Лучынка каўзнула з рук і ўпала на кучу лёну на запечку...

Шугнула полымя і яшчэ больш асьвяціла печ... Якуб страшна лыпаючы вачыма і з белымі плямамі на твару трымаў на руках сына... з спавівальнай цясёмкай на шыйцы. Пасінелае дзіцё ўсё дрыжэла і захлыналася пенай... Зося крыкнула, як разарвалась што ў грудзёх, і кінулася к Якубу... Якуб, мабыць, хацеў дакончыць удзельніка сваёй гаспадаркі, сьціснуў яго... але Зося рванула дзіцё з рук і з крыкам, захлынаючысь едкім дымам, выскачыла з хаты на вуліцу...

— Міха-ась!..—прарэзаў васеньнюю ноч апантаны крык Зоські...

Прыціснуўшы к грудзям нежывога сына, яна дрыжачымі босымі нагамі захлюпала па гразі ўгрунь. Вецер блытаўся ў расклычанай галаве і гуляў у перагонкі з ёй... Бегла адтуль—дзе падымалася шырокае зарава... . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усё плыло. Лес, поле, луг, балоты—кружыліся ў шалёным карагодзе перад глыбока-упалымі і пылаючымі вачыма Зоські. Яна ехала. з Міхасём у горад. Хутчэй цягніка нясьліся думкі яе туды... у далёкае, новае... Як яно здавалася разгонным, глыбока захапляючым апасьля цяжка пražытых часін. Апасьля жорсткай роспачы на першых кроках свайго маладога жыцьця зноў наліваліся маладыя грудзі новай імклівасьцю, большай упартасьцю да жыцьця і барацьбы...



**Юрка Лявонны.**

# Маці.

(з цыклю „Аб сабе“).

Дзівавалась доўга
 ля прысады:
„Ой, вялікая дарога—
 ці не сядзе?..
Вось пайшоў... І можа-прыдзе,
 можа-не...
Будуць зоркі па-над крыжам
 ружавець.
Буду плакаць і маліцца
 да зары,
Будуць сны цяжкія сьніцца,
 гаварыць...
Аб табе ўсё, мой сыночак
 дарагі,
Будуць плакаць мае вочкі
 ад тугі...“
Гэта полымя не згасіш
 і вадой...
Ой, матуля, з таго часу—
 сем гадоў!..
Не загінуў без трыманьня
 твой Лявон,—
Апынуўся ў новым стане
 дзесь-ці ён...
Ён не п‘е жыцьцё, як воцат—
 ледзь стрымаць!
Па радкох стаў толькі гоцаць,
 вандраваць!..
Але заўжды ў працы, гулях
 памятае,
Што ёсьць родная матуля
 ды чакае!..

30/XII—26 г.



# Разьвітаньне.

прызыву 1904 году.

Дзе разложыстыя гоні
Зачапілісь аб гару,—
Рассыпае песьня звоны
Каля возера ў бару...

Ночка месік улавіла
Дый закінула ў раку...
Шла вясёлая Марыля
На спатканьне к Петраку.

І вось там, дзе вецер голы
Сеіць змрокі па трысьці,—
Цені дзьве... Знаёмы голас
Расьсякае ночы ціш:

„Эх, Марыля! Гэта — сёньня...
Ну, а заўтры—у паход!..
Рыхтавацца трэба зноў нам,
Каб спакойна жыў народ...

Заўтры—прызыў... Але трэба
Бараніць слабодны край!..
З пірагамі—ці без хлеба!—
Груганоў-жа — не пушчай!..“

Ночка косы распусьціла,
Ды й загінула ў туман...
З разьвітаньня йшла Марыля—
Ні тугі, ні сьлёз—няма!..



Рыгор Нядоля.

# Дапрызыўнік Стах.

1.

Паміж Вязьмічамі і Грачыхамі, дзе аднойчы Ганнулька ў Міхаські на шыі хісталася, прытуліўся завод. Калі хто пісьменны, той заўсёды прачытае на шыльдзе:

Гарошынскі
вінакурны і рэктыфікацыйны
завод „МАРАТ“.

Як пачаўся рэмонт,—вось тады і прыехалі ў Гарошына Леваненкі.

Спачатку сам Пётра Іванавіч—машыністы. Потым яго жонка з сынам Стахам і дочкай Галей.

І зажылі яны, як звычайныя „гарошынцы“ жыцьцём чорным, як заслонка. Улетку—праца, узімку—праца, увосень—праца, а ўвясну, нават, сонейка ўбачыць, паглядзець, якое яно, не было часу.

Стах працаваў супольна з бацькам на заводзе за смажчыка. Брат малодшы памёр—з горлам ў яго нешта здарылася. Не вытрымаў. Во і Стах—таксама: сямнаццаты год пайшоў хлопцу. А нягеглы нейкі. Сам высокі, кволы, нібы тонкая штанга, шыя худая, а вочы вялізныя—глядзяць неяк маркотна, неяк сумна...

Праўда, выгляду сваіх вачэй Стах не ведаў—ды й не любіў глядзецца ў люстэрку, але-ж бацькі трасьліся, сачылі за крокам кожным сына свайго адзінага, не ведалі, што рабіць ад любасьці сваёй бацькаўскай.

— Ой, каб у яго сухот не было? Стасік, выпей „Ле-каролю“ лыжачку...

І так вось міналі годы юнацтва, нібы ў календары лісты. А кожны ліст з цыфрай: „17“... „18“... „19“... „20“... „21“...

Бацька даўно мэханікам задзелаўся, Стах—манцёрам... А ўсё-ж ткі не тое нешта. Не хапае нештачка хлопцу—дый годзе. Гарная-б з яго дзяўчына выйшла, а хлопец так сабе...

І хаця кожную вясну добра сьпявалі дзяўчаты за возерам, у Прысмаках,—вось хараша-б туды,—Стах сядзеў адзін у майстэрні.

І пачуцьцяў... а-ніякіх!!!

2.

У восень позьнюю, калі апошнія гарошынскія бярозкі паскідалі жоўтыя кашулі, каб захавацца пад сьнежным дыванам—замітусіліся, завойкалі Леваненкі...

Загад прыйшоў:

...„грамадзяне нараджэньня II-ой паловы 1904 году прызываюцца на вучэбныя пункты ў тэрыторыяльныя вайсковыя часткі дзеля прахаджэньня дапрызыўнай вайсковай падрыхтоўкі...“

— У салдаты, значыцца, бяруць Стаську!

— А матачкі-ж мае любыя! Як-жа-ж ён у казарме жыць будзе? І вопраткі цёплай няма... Ну, ці ёсьць праўда на сьвеце? Каб адзінага сына забіраць ад бацько-оў!.. Каб з іх дух папёрла, як яны людзей катуюць!!!

Бацька параіў:

— Ты скажы ім, што хворы... мо' яшчэ і аслабаняць. Во, як Федзька з Ваўкавіч у мінулым годзе... Гуляе хлопец і нічога!

Але-ж Стах адмовіўся.

— Пайду... усё роўна, ці тут гібець, ці там...

— Ну, што ты скажаш такому. Вядома, дурань! Не пройдзе яму дарма гэтая „падрыхтоўка"...

Аднак цёлку ад Чунькі—каровы швіцкай,—прадалі, каб што-небудзь было на дарогу хлопцу. Ці-ж там даглядзяць? Чакай!

Хаця нічога не папішаш. Бяруць, што ты хочаш?

Абняўся Стах з бацькамі, з Галяй, шчыльна прыціснуў да сябе Ваўчка-лахматага, друга свайго адзінага і, гайда, да хлопцаў-таварышаў. Песьню хвацілі:

„Эх, і ў садо-очку
Лісьцікі спада-а-а-аюць
У салдаты хло-опца
Забіра-а-а-аюць!.."

І зьніклі за прысмацкімі могілкамі, на шляху Смальлянскім.

На заводзе дзяўчаты разрумзаліся... Шкада было хлопцаў. Усіх шкада—і Антоську, і Петрака, і Міколу, і абодвых Грышак і Зьмітрака...

— Бедненькія!...

А пра сёмага забылі... Па сёмым войкала матка ды ў агародчыку жаласна скуліў Ваўчок.

3.

Сёмка Драгуноў, дапрызыўнік, у Стахавым узводзе быў першы Ці то замок разабраць, ці працівагаз апрануць хуткім манэрам, ці на кане пранесьціся кандзібоберам—усюды на ём, як кажуць, кожа гарэла! А лепш за ўсё—фізкультура! Во дасьціпны хлапец!

Раз... раз... і ўжо на турніке сядзіць гэрой гэроем!..

Стах заўсёды дзівіўся, як гэта ў хлапцоў добра фізкультура выходзе, а ў яго не. І сумаваў...

Аднойчы:

— Леваненка! Паспрабуй, вось так, як я!

Гэта Сёмка да Стаха зьвярнуўся:

— Нічога ў мяне не выйдзе... Дый глядзець будуць... рагатаць пачнуць! Ну што тут добрага?

Але Сёмка ўвечары ізноў да яго:

— Хадзі зараз... хлопцы ўсе на лыжах паехалі... адны днявальныя засталіся...

Пачухаў Стах патыліцу, але-ж пайшоў да турніка з Сёмкам....

— Ну... р-раз... два... тры... гоп-ля! Эх, не так... ты, бач, во як... На руках трэ' падцягнуцца... р-раз... потым—кач... гоп і гатова!

— Лёгка сказаць—гатова... а калі зрабіць, дык наадварот! Але паспрабую... р-раз... цяпер нагамі вышэй... два... Гоп-ля...

І з турніка носам уніз.

Фізкультура!

З гэтага дню крэпка засябраваў Стах з Сёмкам.

4.

Потым пачаліся нейкія новыя ружовыя, радасныя дні. Ні-бы хто кажуру абрыдлую садраў з Стаха. Пасьля заняткаў—з Сёмкам на турнік. А то ў Ленкуток, кніжкі чытаць, вядома якія: па фізкультуры. Часта зьбіралася кампашка. Усё друзьзя-таварышы Сёмкі. Стаха прасілі быць запявалай. Не адмаўляўся і пачынаў любімую:

„Пры лужке... лужке... лу-ужке
На знаёмым по-о-олі...“

Хлопцы з мейсца, як шалёныя:

„Э-эх! Пры радзімым д-ды табуне...
Эй, конь гуляў на воле!“

Па суботам і нядзелям—дні адначынку,—каталіся на лыжах, куды небудзь за горад. Зварочваліся ў казарму позна, калі неба пакрывалася бледнымі агоньчыкамі зорак. Тады хутка „шамалі“ з агульнага катла і лягалі спаць. Спалі моцна—гарматай не разбудзіш. І заўсёды прыходзілася днявальнаму разтаўхваць шашкай заспаўшуюся моладзь:

— Эй, уздымайся, хлопцы! Пад'ём! На паверку выхадзі строіцца!

Заняткі пайшлі к канцу. Марозы ўдарылі, завіхрылі сінія дымы над хатамі. Па начам неба ў сіні бэшмэт апраналася, і часавыя пры гарматах ёжыліся ў кажухох і шлемах.

Стах трымаўся... Асунуўся трохі, але-ж вочы ажылі, голас акрэп, па грудзёх хлопні—толькі гул пойдзе, як з бочкі.

І лыжнікам стаў добрым!

5.

Апошні дзень мільгануў, як быццам яго і не было зусім. У Ленінскім кутку ваенком пасьля дакладу „Задачы дапрызыўніка пасьля збору“, нагаварыў задач—у галаве не ўмясьціш:

— ... будзьце заўсёды ўперадзе... Арганізуйце вайсковыя гурткі, спартыўныя... І палка не забывайце, чаму вучылі—памятайце. Трымайце сувязь... пішыце... N-кі Артполк... 1-я пушачная батарэя“...

Потым казалі начпункту, камандзіры...

— ... за два месяцы вы навучыліся кой-чаму.. Зараз гэтыя веды вы павінны перадаць другім... А ў будучую восень, калі вы ізноў прыдзеце сюды, у лягэры, мы жадаем, каб вы прышлі добра падрыхтаванымі... Няхай жыве чырвоны дапрызыўнік!!!“

Ноччу не спалася чамусьці... Галаву зудзіла думка:

— Заўтра да дому!

А між іншым нешта цягнула застацца... Шкада было братвы... Сёмкі шкада! Усіх тых, з кім за гэтыя два месяцы спаяўся, крэпка зжыўся ў жыцьці супольным. Вось з імі, што сьпяць зараз і на стрэльбішчы мёрзьлі... І пры гарматах колькі гадзін правялі. А колькі разоў узводны Рагожын крычаў злосна:

— Ша-рап-нэль-лю па пяхоце!..—і ганяў то ад гармат, то да гармат...

Гэта ж з імі лазіць прыходзілася ў працівагазы „Гуманта, Зэлінскага“ і слухаць на палітгадзіне краснамоўства дзядзькі Цыганкова!

— Заўтра да-дому!

І „заўтра“ прыйшло. Крэпка адказваў на пацісканьні рук камандзіра і памочніка... Сунуў „личную карточку“ ў кішэнь. Апошні раз разьвітаўся з Сёмкам, з таварышамі...

І, гайда, у Гарошына, дамоў.

6.

— Сыночак родны! Даражэнькі!

— Стаська! Які ты ладны стаў! Малайчына!

Заварушылі, задзёргалі хлопца бацькі. Вярсты за дзьве за завод сустракаць выйшлі. Быццам з Амэрыкі, з Бразыліі прыехаў...

— Ну, як, што? Здароў? А мы баяліся, ці не захварэў ты часам! Лістоў ад цябе не было!

Праз вёску ішлі. З кожнай хаты з вокан глядзелі вочамі цікавымі з усіх бакоў шчупалі. А дзеўкі прысмацкія хлапцоў гарошынскіх выйшлі вітаць! Антоську, Міколу, Петрака, абодвых Грышак і Зьміцера Рудага...

— Як? Ужо зусім? Больш не забяруць?

А Стах з бацькамі хутчэй да дому. Да шэрага ганку, дзе шыльдачка маленькая: „Кватэра мэханіка". Ваўчок, як шалёны, насустрэч кінуўся лізаць рукі, твар..

— Ваўчок! Ваўчок! Сабачка... не забыў?!..

За гарбатай сядзелі доўга... Запытваліся аб жыцьці ў горадзе, скардзіліся на сваё „горошынскае жыцьцё"... Чаго за сьлязмі матка не дагаварвала, сястра дапаўняла. Вось, яна якая Галя! Выцягнулася за гэты час, вочкі, як перасьпелыя чарэшні.

— Ну, як, Галя, тут у вас? Гуляць на вячоркі, пэўна, ходзіш?

— У сьвяточныя дні калі... а то дома...

— Чаго-ж так...

— Хлопцы ўсё вязнуць, а ў нас хвароба дурная ходзіць!

— Няўжо-ж гэта 'шчэ не перавялося ў нас? І гэтыя вячоркі з пацалункамі ды абнімкамі да самай раніцы. Гэта-ж негігіэнычна!

Задумаўся Стах. Во, дзе фізкультура патрэбна, во, дзе Сёмкіна праца прыгадзілася-б. Хвароба дурная ходзіць. Вядома, калі так жывуць! Трэба гэта ліквідаваць...

А няўжо гэта толькі Сёмка можа? Напрыклад, калі-б самому ўзяцца? Не, цяжка, нікалі ня браўся за такія справы...

— А мо' паспробваць?

Урэшце рашыў:

— Паспрабую!

7.

Спачатку было дрэнна. У гурток запісалася мала. Казалі на задворках:

— Тожа інструктар знайшоўся! Гэта кожны так... зьдзене штаны і пачне фізкультуры паказваць...

Бабы перашэптваліся:

— Во дажылі... голыя пачалі хадзіць... Во пайшла распуста на белым сьвеце...

А Стах—нічога... У хаце-чытальне расклеіў плякаты:

— Даёш фізкультуру!

І малюнкі розныя сам намаляваў, як умеў. Шкадаваў, што музыкі няма. Але тут настаўніца—Мар'я Міхалаўна—дапамагла. Згадзілася кожную рэпэтыцыю граць на раялю. І пашла справа.

Нават некалькі дзяўчат у гурток запісалася.

У нядзелю ўсё Гарошына ў школу палезла—глядзець:

1-ае выступленьне

Гарошынскага Гуртку Фізвыху!

Моладзі шмат пайшло. Усё-ж ткі цікава. Лузгалі семячкі і перасьмейваліся. Чакалі.

І раптам раяль: „дум-дум-дум... дум-дум...

І на сцэну хлопцы і дзяўчаты... р-раз... два... і шаравары ва ўсіх сінія. А на грудзёх значкі нейкія.

Выстраіліся і пашлі вырабляць розныя штукі! Хлопцы аж раты паразьзявілі!

— Во Стах, дык Стах! А дзеўкі, трасца ім у бок, як гэта яны панавучыліся?!

Шмат чаго было дзіўнага. Піраміда, марш камсамольскі, кузьня...

Глядзелі старыя пахмурна. Не спадабалася спачатку фізкультура, потым не вытрымалі. За жывое ўзяло і... давай у ладкі плёскаць.

А на тварах сонца. Шмат сонца...

8.

Праз месяц пасля „1-га выступленьня“ ў завадзкой школе Стах пісаў:

„Т а в а р ы ш ы  к а м а н д з і р ы!

Прабачайце, што не трымаў сувязь, як тады казалі, калі разыходзіліся па дварам. У нас шмат чаго трэба зрабіць і палепшыць. Пакуль што я арганізаваў гурток фізвыху, і ўжо адзін раз было выступленьне. Моладзь ідзе ў гурток ахвотна і нават зацікавілася, ды няма літэратуры. Калі ласка, прышлеце! А яшчэ нам дапамагае тутэйшая настаўніца. Скончыла ў гэтым годзе Магілеўскі Пэдтэхнікум і заўсёды грае нам на раялю. Справы ў нас ідуць сабе нішто. І яшчэ прашу вас, таварыш военком, прыслаць інструкцыю, як арганізаваць „Авіяхім“. Як гэта робіцца і куды зварачвацца за літэратураю і лектарамі... Бо сярод насельніцтва я карыстаюся аўтарытэтам, і дзяўчаты ад мяне ўжо не бягуць, як раней... У нас газэты шмат хто выпісвае, а калі-не-калі і даклады робяцца... Пакуль бывайце здаровы, паклон усім таварышам. С. Л е в а н е н к а.

P. S. Напішэце яшчэ, што патрэбна, каб паступіць у *Вайсковую Школу? С. Л.*

А праз год Стаха Гарошына праваджала. У дальні пуць—у Ленінград за асьветай. Толькі на гэты раз Ваўчок скуліў ужо не адзін...

12 студзеня 1926 г.



К. Губарэвіч.

* * *

Нешта кранула кволую заціш,
Нешта льлецца ў сэрдэчную гаць,
Часам многа чаго не сказаці,
Часам цяжка усё перадаць....

Многа ўзмахаў было без разгону,
Многа песен было без зары,
І ў сумоце здрантвелыя гоні
Шалясьцелі быльнёчам старым.

А цяпер агнявою істотай
Колькі можна кілішкаў наліць?!..
Маладыя юнацкія ўзьлёты,
*Як мне вас не вітаць, не любіць.*

Маладосьць я не першы вітаю,
Мне не першаму гымнам гарэць,
Але ж ціха палаючым маем
Ружавеюць цьвяты на зарэ...

Але-ж як сінякрылым завеям
Не ўкружыць ціхазвоннасьцяй дзён,
Калі так у веснавых ціхавеях
Зелянее разьвесісты клён!..

І жыцьцё ў пералíўнасьці кволай—
У маладосьці на шквальны разгон...
І не жоўкне на сонечным долу
Зелень ў долах красуючых дзён...

Нешта кранула кволую заціш,
Нешта льлецца ў сэрдэчную гаць,
Часам многа чаго не сказаці,
Часам цяжка усё перадаць.



* * *

Часам неяк сумна,
Часам неяк шкода,
Што ляцяць гадзіны,
Прабягаюць годы.

Прабягаюць годы,
Як з разгону коні,
Затанулі далі
Ў сінім піхазвоне.

Не таго так шкода,
Што зялёнай пожняй
За гадамі тымі
Прабяжыць апошні.

А таго, што часта
Ў хуткасьці напорнай
І закрывіш часам
З пуцявіны торнай.

А пакуль з блуканьня
Заківаюць далі—
Многа не далічыш
Залатых каралей...

Вось чаму, здаецца б,
Пуцявінай гладкай
Завярнуўся б зноў я
І пайшоў спачатку.

Зноў ба пражыў я
Стромчатыя годы,
Што кудысь далёка
Пазнасілі воды.

Годы, што так жарка,
Ды па ўсяму сьвету,
Запалілі мклівасьць
Да агульнай мэты.





# „Пад вішневымі садкамі,"

п'еса ў V актах.

## Дзеячыя асобы:

**Лявон**—малады хлопец—23 г., заможных бацькоў... „Малады“.
**Сьвёкар**—бацька Лявона—56 г.
**Сьвякруха**—матка Лявона - 50 г.
**Наста**—кума іх—55 г.
**Язэп**—старэйшы сват—50 г., гаварун...
**Зьмітрок**—брусьнік—22 г.
**Музыка**—малады хлопец.
Моладзь і госьці з боку Лявона...
**Марыля**—прыгожая дзяўчына—20 г., „Маладая“.
**Цімох**—бацька Марылі—50 г.
**Матруна**—матка Марылі—48 г.
**Аўгіньня** } кумы Цімаха 45 г.
**Зяноўя** } кумы Цімаха 50 г.
**Ігнат**—кум Цімаха.
**Анупрэй**—стары зусім дзед...
**Марцэля**—старая зусім бабуля.
**Ганна** і **інш. дзяўчаты**—дружкі Марылі...
**Параска**—бедная дзяўчына—25 г.
**Кастусь**—малады хлопец, кахае Параску...
**Зьмітрок** } любяцца 22 г.
**Ганулля** } любяцца 20 г.
**Супрон** } гэтак сама любяцца такога-ж узросту.
**Грыпіна** } гэтак сама любяцца такога-ж узросту.
**Васілёк**, брат Марылі...
Народ.

---

## ДЗЕЯ І-я.

Вуліца вёскі. Вечар перад сьвятам. У паветры ціша і цяплыня. Месячна. Дзесьці за сялом ігра на гармоніку і сьпевы, якія ўсё прыбліжаюцца. Сцэна пустая... Прабрэша сабака да пракрычыць у сенажаці драч. Сігаюць кажаны.

На сцэну з правага боку валіць грамада хлапцоў. Ад іх адлучаецца Лявон.

### ЗЬЯВА 1-я.

**Лявон**—Дзе вы будзеце, хлопцы?.. Каля Кандратавай хаты?

**Зьмітрок**—Будзем там, дзе дзяўчаты...

**Лявон**—Ну, добра, сустрэнемся.

**Зьмітрок**—А сам зараз на спатканьне з Марылей?.. Ідзі, ідзі, а то недзе ўсе вочы ўжо праглядзела... *(Хлопцы ідуць у левы бок, а Лявон падбягае да хаты Цімаха і ціханька стукае ў вакно. Адчыняецца вакно і паказваецца Марыля...)*—Ты?.. Я зараз!.. *(Лявон хаваецца за вароты... Паказваецца Марыля, яе хватае Лявон, яна зьлёгку ўскрыквае).*

### ЗЬЯВА 2-я.

**Лявон** *(сьціскаючы яе ў сваіх руках)* Эх, узяў-бы, здаецца, ды задушыў цябе!..

**Марыля**—Вой, пусьці!.. Усе косьці пахрапустаеш!.. Што гэта з табою сёньня?..

**Лявон**—Не ведаю, нейкая магутная сіла разьлеялася па ўсім целе. Хочацца абняць усіх людзей, увесь сьвет, а асабліва-ж цябе! *(хоча зноў абняць).*

**Марыля** *(баронячыся)* Ай, адстань!.. Ад сёнешніх тваіх абнімкаў заўтра рэбраў не далічышся...

**Лявон**—Ну, дык я хоць гэты вугал абніму... Калі ты не жадаеш, дык я яго зраблю шчасьлівым... *(Падбягае і абнімае вугал хаты).*

**Марыля** *(рагочучы)* Ці не звар'яцеў ты?!.. Дальбог, я баюся... Трэба ўцякаць!..

**Лявон** *(кідаючыся да Марылі).* Ну, кінь, што ты! *(хватае за руку).* Хадзі на прызьбу...

*(Садзяцца, маўчаць... Каля іх, над самым носам пралятае кажан).*

**Марыля** *(ускрыкнуўшы)* А як-жа ён мяне спужаў!.. Сігануў ля самага носа... Слухай, Лявон, праўду гэта гавораць, што быццам яны, кажаны, п'юць кроў у людзей?.. Мне баба казала, што калі ўвясну маладая дзяўчына ляжа спаць каля вакна, дык ён пралезе ў хату, сядзе на грудзёх і высьсе кроў...

**Лявон**— Як бы я хацеў быць кажаном, а каб ты была тэй дзяўчынай, у якой ён сядзе на грудзёх.

**Марыля**—Ого, ад такога кажана адны костачкі засталіся-б...

**Лявон**—Ну, Марыля сёньня я ўжо канчаткова гаварыў з сваімі бацькамі, што жаніцца буду з табою...

**Марыля** *(устрапянуўшыся)* Ну, і што-ж?..

**Лявон**—Бацька нічога, згаворчывы, а вось матку дык цяжка пераканаць... Набрала чагосьці ў галаву, ці то, можа, хто чаго наплёў... Але глупства: і яе спадзяюся схіліць на свой бок...

**Марыля**—Лявон, навошта пацяшаць сябе тым, чаго быць не можа... Ну, добра, твая матка, любячы цябе, як адзінага сына, можа, і згодзіцца на тваю просьбу... Але-ж у сэрцы яе ўсёроўна захаваецца няпрыхільнасцьь да мяне... Не жыцьцё мне будзе тады ў тваёй сям'і...

**Лявон**—А табе што да таго, як бацькі будуць глядзець на цябе.. Абы мы ладам жылі паміж сабою... А ў гэтым, думаю, ты не сумняваешся.

**Марыля**—Дык глядзі-ж, Лявон, каб любіў мяне... Толькі з гэтай думкай я іду ў тваю сям'ю... *(Павуза).* А цяпер... у мяне да цябе яшчэ адна просьба... Хачу, каб ты быў шчырым—не зманіў мне... Паміж табою і Параскаю Пятруковаю нічога не было такога... Ну, што далёка завяло-б вас абаіх?..

**Лявон** *(нездаволены).* І навошта было атручваць гэты чароўны вечар... Што было, тое прайшло і быльнікам парасло... Не кратай ляпей гэтага... Няўжо табе яшчэ патрэбны даказацельствы, што я кахаю цябе?..

**Марыля**—У гэтым я не сумняваюся... Але чаго-ж яна заўсёды гадзінаю сычачаю прысукваецца да мяне? Ты ўжо ведаеш, што са мною было на рацэ тыдзень таму назад: я чуць не ўтапілася... І вось зараз выявілася, што тады яна, Параска, штырыла мяне ў вір, калі мы купаліся...

**Лявон**—Гэта праўда?.. Ну, пападзіся-ж яна мне зараз... Назаўсёды адганю ахвоту чапіцца да цябе!.. Э, калі-ж ба і ты пакорлівая нейкая: хоць раз-бы адрэзала ёй, як сьлед... А то ўсё ласачкаю да просьбаю хочаш узяць... *(На сцэну выбягаюць Зьмітрок с Ганнай).*

ЗЬЯВА 3-я.

**Зьмітрок**—Ганулька, хадзем у ваш садок... Мне хочацца сказаць табе многа, многа!..

**Ганна**—А... нагаворыш ты мне, як кот наплача... Толькі прыліпнеш, як бялізна ў гарачыню, ды будзеш сапці...

**Зьмітрок**—Нават дыхаць перастану... Толькі хадзем, рыбулька мая!.. А я ўсё-ж-такі табе нешта цікавае, цікавае скажу...

**Ганна**—Што жаніцца са мною хочаш? Дык гэта-ж мне абрыдла ўжо ад цябе чуць... А, па-мойму, чымся малоць, дык узяў-бы ды ажаніўся...

**Зьмітрок**—Зразумела, з табою?..

**Ганна**—Ого, папробуй толькі з кім іншым!.. Тады я табе зраблю такое вясельле, што ўвесь век будзеш памятаць... *(Рагоча)*... Ну, хадзем, хадзем у садок, маё пакорлівае цялятка... *(Гладзіць Зьмітрака па галаве і ідуць у левы бок)...*

**Марыля**—Як ён яе любіць!.. А яна ўсё жартуе, хоць гэтаксама не мо.:а жыць без Зьмітрака...

**Лявон**—Не мацней, як я цябе... Ды ў тваім голасе чутна як-бы зайздрасьць да іх... Гэтым ты мяне крыўдзіш...

**Марыля**—Не крыўдуй, мой любы... Бо тое-ж праўда: у іх каханьні няма нічога недаказанага, усё на віду... Бацькі Зьмітрака рады бачыць Ганну сваёй нявесткаю... Ды... ніхто папярок дарогі не стаіць...

**Лявон**—Ты зноў за сваё!.. Марыля, кінь, а то злавацца пачну!..

**Марыля**—Ты злуешся, а мне гэта яшче больш балюча... Ну, годзе аб гэтым... Скажы-ж, калі ты хочаш, каб наша вясельле было?..

**Лявон**—Бяспрыменна на сёмуху...

**Марыля**—Значыцца, праз тры тыдні... *(Уздыхнула)*... А калі-ж барыш прыедзеш піць?..

**Лявон**—У гэту суботу...

*(На сцэну з шумам выбягаюць Супрон з Грыпінай).*

## ЗЬЯВА 4-я.

**Грыпіна**—Адкасьніся ад мяне, смала, а то, дальбог, у вочы плюну!..

**Супрон**—І чаго ты, Грыпулька, на мяне крычыш і ўсё лаешся?.. Чаму-ж ты спачатку не такая была?..

**Грыпіна**—Бо не ведала добра, што ты за недарэка... А цяпер—даволі!.. Не сьмяшы людзей...

**Супрон**—Ды не магу-ж я без цябе жыць!.. Як ляльку, я буду шанаваць і песьціць цябе...

**Грыпіна**—Прападзі ты з сваёй пашанай... і багацьцем!.. Не багацьце мне тваё патрэбна, а сам ты... А вось гэтага „сам" у цябе і няма... Сом ты, бервяно!.. Адчапіся ад мяне!.. Глядзець на цябе не магу!... Цьфу!.. *(зрываецца з месца і імчыцца ў правы бок, за ёй кідаецца і Супрон).*

**Лявон**—Дурніца гэты Супрон: плюнуў-бы на гэтакую кралю, і дзела з канцом... Яшчэ і задаецца—што-та Я!.. Быццам ніхто не ведае Грыпіны Самусёвай!..

**Марыля**—За вошта вінаваціць Грыпіну—не разумею... Сілаю мілым не будзеш... Каб быў Супрон растаропны, дык зразумеў-бы гэта...

**Лявон**—Чаму-ж яна адразу яго не адшыла?.. Навошта сядзела з ім ночы напралёт?..

**Марыля**—Сядзела, пакуль не вызнала Супрона... Ну, сам ты скажы, ці такі патрэбен Грыпіне?.. *(Пазірае на неба).* Ужо і месяц спусьціўся нізка, і сітцо пераваліла за поўнач... Зараз днець пачне... Трэба ісьці спаць... *(Хоча ўстаць).*

**Лявон** *(утрымліваючы яе).* Пасядзі яшчэ часінку... Заўтра сьвята—высьпішся. *(Туліць да сябе)*... Кожны наступаючы дзень я сустракаю с жаданьнем, каб ён хутчэй прайшоў... Бо пройдзены дзень прыбліжае нас да тэй часіны, калі мы будзем належыць адно аднаму... На заўсёды, на ўсё жыцьцё... *(Цалуе Марылю, тая ў тампленьні кладзе яму на грудзі галаву... Застылі... Раптам на сцэну вынікае Параска. Вочы яе з вялікаю прагавітасьцю шукаюць кагосьці... Яны спыняюцца на „пары"... Параску, як нажом, кальнула ў грудзі, што зараз-жа адбілася і на твары... Яна прысядае за плот)...*

**Марыля** *(усхваціўшыся).* Даволі!.. Я пайду... Бывай... Да заўтра!..

**Лявон** *(трымае за руку).* Навошта ты абудзіла мяне ад дзіўных сноў?.. Пачакай, я правяду цябе да клеці... Хоць адным вокам пагляджу на тваю пасьцель дзявочую. .

**Марыля**—Што ты... Лявон... Кінь... Ідзі... Ідзі... Хай цябе сьвежы ветрык спаласьне...

**Лявон**—Эх, ночка месячная!.. Спыні ты кроў маю гарачую!.. *(Сьціскае рукі, тыя аж трашчаць... Стукнула хвортка... Лявон аглянуўся, але Марылі ўжо не было, толькі вырвалася з вуснаў: „Марыля!.." А песьні і гармонік у канцы сяла не змаўкалі... Лявон ідзе ў той бок, дзе моладзь, але яму раптам Параска перарэзвае дарогу).*

## ЗЬЯВА 5-я.

**Параска**—Пачакай, не сьпяшайся... Я буду тым ветрам, які працьвярэзіць цябе ад чаду новага каханьня...

**Лявон** *(нездаволеным голасам)* Што табе ад мяне трэба?..

**Параска**—Не так хутка і лёгка на гэта адказаць... Ляпей я вось у цябе запытаюся: прыходзіў умаўляцца аб дні вясельля?..

**Лявон**—А калі-б і так, дык табе што?..

**Параска**—Што?.. А цікава ведаць... Мне гэта трэба...

**Лявон**—Навошта-ж гэта табе спатрэбілася?..

**Параска** *(рэзкім нэрвовым голасам)*. Бачыш... як табе сказаць?.. У гэты дзень павінна было быць маё вясельле... Але кажуць, што зараз я ўжо не варта гэтага... Знайшлася другая, вартнейшая...

**Лявон**—Усякі гэта скажа...

**Параска**—Не, не ўсякі!.. Я гэтага не скажу!..

**Лявон**—Ха-ха-ха! А хто ты мне?..

**Параска**—Параска Пятрукова, якая пакахала цябе, даверылася і якую ты бязьлітасна абмануў!..

**Лявон**—Каб сама не жадала—не абмануў-бы... Чаго на шыю вешалася?..

**Параска**—Хай-ба-ж ты тады адштырыў мяне. Я выплакала-б, можа, сваю любоў да цябе... А зараз... Ты ведаеш?.. Зараз ты адпіхаеш і губіш ужо не адну мяне... *(Ціха плача)*.

**Лявон** *(трохі сплахаўся, верыць і не верыць)*. Я цябе ведаю... Ужо на хітрыкі кідаешся... Э, а калі-б гэта і праўда была, дык мала з кім ты нагуляла гэта дзіцё?..

**Параска** *(адрывае ад твару рукі... З крыўдаю)*. Сабака!.. Згубнік!.. Не сьмей мяне крыўдзіць!.. Думаеш, Параску, калі яна адна на сьвеце, можа кожны і штурхаць?.. Памыляешся!..

**Лявон**—Чаго расквакталася!.. Вось узяў ды спужаўся цябе!.. Слухай, кажу не жартуючы, не станавіся папярок дарогі!.. Пашкадуеш!..

**Параска** *(нэрвова рагочачы)*. А чаго-ж мне зараз шкадаваць?.. Усё тое, чаго шкода было, ты зьнішчыў, утаптаў у гразь... Я цяпер тая вярба, што стаіць на грэблі з прагніўшым асяродкам і чакае свайго канца... Ні буры, ні дажджы не палохаюць яе, бо ўсёроўна дні яе зьлічаны...

**Лявон**—З вар'яткаю не ахвота і размаўляць. *(Махае рукою і ідзе)*.

**Параска** *(уздагон)*. Дык чакай-жа мяне да сябе на вясельле!!! *(Ломіць рукі)*. Ночка, матка мая! Будзь ты без конца... Не выдавай беламу сьвету майго сораму!.. Эх, мамачка мая залаценькая. Перад скананьем сваім ты мяне перасьцерагала не верыць вельмі людзям... А я паверыла... Цераз меру паверыла... І вось за гэта нясу пакуту... *(Думае)*. Дзе дзецца?.. Што рабіць?.. Навошта цяпер я каму?.. Калі ён адштырхнуў нават яго... маё дзіця?.. *(На твары зьяўляецца раптам упартасьць)*. Але не!.. Усё перанясу, цябе-ж, маё ты любае дзіцятка, вынашу на злосьць яму... твайму згубніку-бацьку!..

*(Выходзіць Кастусь)*.

### ЗЬЯВА 6-я.

**Кастусь** *(ня бачачы Парасkі)*.

„Дзеўкі борам, дзеўкі борам,
Я адзін—палянкаю,
Я адзін—палянкаю,
Ды з сваёй каханкаю"...

Не знайсьці... Яшчэ зьвечара прапала... Эх, Параска, Параска, хаваешся ты ад мяне!.. Бачу, што пакутуе: Лявон да Марылі стаў прыліпаць... Кажуць, вясельле на сёмуху будзе... *(Параска хоча ціханька зьнікці, але яе зглядзіў Кастусь)*.

**Кастусь**—Параска?.. Што ты тут робіш?.. *(Ідзе да яе)*.

**Параска**—Нічога... Была на могілках... А зараз варочаюся...

**Кастусь**—Адна, уночы? *(Глядзіць на яе з каханьнем)*.

**Параска**—А чаго мне баяцца?.. Асабліва зараз!..

**Кастусь**—Што здарылася?

**Параска**—Нічога... Так вось сказалася ды ўсё...

**Кастусь**—Не хітры... У цябе ёсьць нейкі сэкрэт?..

**Параска**—Тое, што ў мяне ёсьць, сэкрэтам не можа быць...

**Кастусь**—Тады скажы...

**Параска**—Сам праз некалькі месяцаў убачыш...

**Кастусь**—Што ў цябе рогі вырастуць?..

**Параска**—Так, Кастусь, нехта расьце ў ва мне... *(апускае вочы, Кастусь глядзіць на яе зьдзіўлёны).*

Заслона.

## ДЗЕЯ II.

Хата Цімаха. Прыбрана.

### ЗЬЯВА 1-я.

**Цімох**—Матруна, ты прыгатавала-б чаго-небудзь... Лявон, можа, і не маніў, калі казаў, што сёньня прыедуць барыш піць.

**Матруна**—Не верыцца мне, каб гэта была праўда. Матка не дапусьціць...

**Цімох**—Ну, тады тое і будзе, а прыгатавацца ўсё-такі трэба... Дзе гэта Марыля?..

**Матруна**—Пайшла, знаць, к Ганьне на попрадкі... Скрыўдзіла вельмі я яе ў той дзень, як яна ледзьве не ўтапілася... Стараецца, каб не застацца нават вока на вока.

**Цімох**—Калі-ж ба вы, мацеркі, бязглуздыя часам бываеце... То любіце шчыра, то, як выдры, накідаецеся на дзяцей... Ці-ж яна жадала сабе сьмерці?.. Здарылася так... А, можа, і тое праўда, што людзі кажуць, быццам Параска Пятрукова штырыла яе ў вір...

**Матруна**—Ды ад гэтай усяго можна чакаць... Каб прымела, дык павесілася-б на Лявоне... Я ўжо думаю вось што: ці не адгаварыць нам Марылю ад Лявона?.. Яшчэ чорт ведае, чаго можа нарабіць, яшчарка тая.

**Цімох**—Гэта самае думаю і я... Толькі ці не дарма будзе ўсё... *(Уваходзіць Марыля).*

### ЗЬЯВА 2-я.

**Матруна**—Марылька, чаго ты ўсё маўчыш?.. Няўжо яшчэ ўсё на мяне крыўдуеш за тое, што пасварылася на цябе?.. Ну, прабач мне... Гэта я зрабіла, як матка, любячы цябе...

**Цімох**—Марыля, так не можна рабіць... Матка пасварылася—значыць, было за што... А дзьмуцца ты не павінна...

**Марыля** *(кідаючыся матцы на шыю).* Мамачка, родная мая, ды ці сьмею-ж я на цябе сердзіцца!.. Хто-ж мяне так любіць, песьціць, калі ня ты з таткам?.. Я маўчу—дык на гэта ёсьць прычына... Камень нейкі ляжыць у мяне на сэрцы...

**Матруна** *(лашчыць дачку).* Соўнейка ты маё, чаго-ж табе не хапае?.. Ты-ж у сваіх родных бацькоў, якія любяць цябе ўсёй душою... Заставайся пры нас... Выкінь Лявона з галавы... Няхай жэніцца на здароўе з кім іншым... А потым, можа, і ты сваё шчасьце знойдзеш... і ніхто перашкаджаць не будзе...

**Марыля**—Эх, мамачка, каб-жа я ды магла так лёгка выкінуць з галавы Лявона... З галавы выкіну—сэрца загвалтуе... Не, калі суджана мне быць шчасьліваю, дык толькі з Лявонам я буду такой...

**Матруна**—Як сама ведаеш, маё дзіцятка, так і рабі... Глядзі, каб толькі потым увесь свой век не плакала і нас, бацькоў, не праклінала...

**Цімох** *(гледзячы ў вакно).* Хто-ж гэта пад нашы вароты пад'яжджае?.. Здаецца, Лявон?.. А з ім хто?..

**Матруна** *(падбягаючы да вакна)*. Ды гэта-ж з ім Язэп Старавойтаў... і яшчэ дзяцюк нейкі... *(Марыля, засаромеўшыся, выбягае з хаты)*.

**Цімох**—Такі спраўдзіў Лавон... Засьцялі-ж ты хоць стол. *(Матруна засьцілае стол; уваходзяць: Язэп, Лявон і Зьмітрок)*.

ЗЬЯВА 3-я.

**Язэп**—Дзень добры к вам, ці рады вы нам?..

**Цімох**—Дзень добры... А адкуль-жа будзеце, людцэ... І чаго ад нас патрабуеце?..

**Язэп**—Быў я ў вас у летку,
Бачыў дзеўку-кветку...
Каб вы мне яе не прадалі,
А дарам аддалі...

**Цімох**—Наша кветка—рожа,
Яна вельмі прыгожа...
Нам не трэба чырвонец,
А ўдалы малоец...

**Язэп**—Вот ён перад вамі—
З чорнымі брывамі.
Зваць яго Лявонам—
Паглядзець—дык пан-панам...

**Цімох** *(ціха Матруне)*. *Ідзі-ж заві радню... Толькі хай не марудзяць... (Матруна выходзіць)*.

**Язэп**—А якія-ж у вас сёлета ўраджаі?.. Чаго больш—агуркоў ці рабін?

**Цімох**—Добрыя агуркі, але ляпейшыя рабіны... Асабліва ёсьць адна рабіна—будзе з яе добрая гаспадыня...

**Язэп**—А ў нас дык вельмі ладныя агуркі... Асабліва ёсьць адзін агурок—будзе з яго добры гаспадарок...

**Цімох**—Ну, дык наш тавар маднейшы; ды ўсякі скажа, што панаднейшы... Каб прышлось яго купіці, дык шмат трэба даплаціці.

**Язэп**—Вы ўжо гэта сьмеяцёся і занадтна бярыцёся: што тавар ваш—першага сорту, а наш—дык не варт ні к чорту.

**Цімох**—Можа і ваш цаны харошай—можна вельмі шмат даць грошай... Але-ж толькі-'шчэ кажу раз—не надуеце вы ім нас.

**Язэп**—Добра, возьмем на вагу абаіх і паглядзім, хто цяжэйшы з іх... Тады кожны хай маракуе, чый тавар колькі каштуе...

**Цімох**—Эй, чалавеча, ці ты надта ўжо разумны, а я дык без конца дурны: хіба-ж можна прыраўніці повад да шаўковай ніці?..

**Язэп**—Дык пастойце-ж, дзе тавар ваш? Трэба, каб ён быў там, дзе і наш... Дай пасадзім мы іх разам, тады пэўнае што скажам...

*(Уваходзяць госьці: Аўгіньня, Зяноўя, Тодар, Ігнат і іншыя, з імі і Матруна)*.

ЗЬЯВА 4-я.

**Ігнат**—Дзень добры вам у хату... Чаго гэта клікалі?.. Кума Матруна нас так напалохала, што я ўжо думаў закрутку браць, каб бегчы сюды кума бараніць... Ажно выходзіць, што ўсё тут добра...

**Язэп**—Добра ды не вельмі, аб аднэй рэчы тут чаўпем мы... Хіба вы нам памажэце, а за працу—вось бярэце. *(Паказвае біклажку)*.

**Аўгіньня**—Дык трэба-ж спачатку ведаць, хто вы такія і ў чым справа...

**Язэп** *(глядзіць на яе з сьмехам)*. Бач, Мацукава падхватка, гаварыла-б ты хоць гладка... Усадзіла нос у проса, але проса не да носа.

*(Аўгіньня садзіцца, як мыла зьеўшы... Язэп да Ігната).* Мы купцы з аднаго места, трэба нам дзеўка—нявеста... А заплацім мы таварам—не ударым у гразь тварам. *(Паказвае на Лявона).*

**Ігнат**—А бачылі вы тавар наш, што бярэцёся за свой... Можа прыдзецца і прыдатак даць...

**Язэп**—Во, сустрэўся з чалавекам—з малайцом, не з недарэкам. Даказвае ўпарта, што чаго варта...

**Ігнат**—Пачакай, чалавеча, чаго сьпяшыцца... Праўда, я сказаў, што прыдзецца прыдатак даць, але ты мне не даў даказаць, хто каму... Каб ваш тавар быў ляпейшы, дык, думаю, не павезьлі-б яго да нас самі набівацца ім...

**Язэп**—А які-ж гэта тавар хаваюць ды купцоў усё намаўляюць: ці той, што не варт нічога, ці той што, каштуе многа?..

**Ігнат**—Ды хто з гэтакім латаком згаворыцца...

**Цімох**—Трэба трохі падмацавацца, тады, можа, больш згаворчывымі будуць нашы купцы. *(Матруна падае на стол закуску. Усе госьці садзяцца за стол. Язэп на куце).*

**Язэп**—Ну, сват, гарэлка мая, а закуска твоя.. Дай вып'ем па чарцы ды закусім па скварцы.

**Цімох**—А так, сваток, купец твой, а тавар мой... Давай трохі пахмелімся, тады ляпей, можа, асьмелімся.

**Язэп** *(налівае з біклажкі ў бутэльку, а потым з бутэлькі ў чарку; падымаючы апошнюю)...*

Каб нашым маладым жылося—былося да на паўаршына сала зьлілося. Трэба, каб яны не ленаваліся, а добра пастараліся: хай налета будзе прыбытак—родзіцца парачка дзетак... *(Усе рагочуць. Язэп, налівае і дае Цімаху, той выпівае і хоча паставіць чарку).*

**Язэп**—Не, сват, так не гадзіцца... Што-ж ты хочаш, каб нашы маладыя адразу закульгалі... *(Налівае і дае другую, той выпівае; Язэп налівае трэцюю).*

**Язэп**—Я буду гневацца... Сёньня тут-галоўныя асобы: Малады, маладая і я... Значыцца, калі ты выпіў за маладых, дык забыўся пра мяне. *(Цімох п'е трэцюю, Язэп налівае зноў)...*

Дык што-ж гэта ты хочаш, каб нашы маладыя жылі ў хаце з трох кутоў? *(Цімох выпівае чацьвёртую).*

**Цімох**—Да другога ты, нябось, дагаворыш і прымусіш выпіць, а сам вось дык не лас...

**Усе**—А праўда, праўда—сват качае...

**Язэп**—Я і сам прыкмячаю, што качаю... Але-ж калі ды напіцца, дык боязна і памыліцца. Бо добрыя людзі кажуць: старэйшаму свату—ці першая чарка, ці першая палка.

**Ігнат**—Ды ён адмелецца...

**Язэп** *(да Матруны).* Ну, свацьця, трымайся. *(Тая бярэ і выпівае).* Гаспадыні хопіць і аднэй, а то яшчэ ўп'ецца ды ўсю пасуду патаўчэ.

**Матруна**—Праўду, сватка, кажаш - даволі з мяне і аднэй... Такі-ж прыдзецца не сядзець, а каля гасьцей тупаць... *(Язэп налівае Ігнату, які выпівае чатыры чаркі, чарга даходзіць да Аўгіньні).*

**Язэп**—Ну, шчабятуха, давай пагодзімся, трымайся...

**Аугіньня**—Ды я абеуруч, сватка, трымаюся... Думаю, што сватава горкая гарэлка... *(Выпівае і падстаўляе зноў чарку; Язэп адбірае ў яе чарку, налівае і дае далей).*

**Аугіньня**—Дык ці-ж я цялё ў бога ўкрала: каму чатыры, а каму адна толькі...

**Язэп**—Ты-ж зьняважыла маю гарэлку, сказаўшы, што яна горкая... На барышы гэтак не гавораць, бо маладым яшчэ не можна цалавацца...

Ды бабе больш за чарку і не можна піць: ад большага ліку адразу асалапянее.

**Зяноуя**—А, можа, якая баба яшчэ больш за мужчыну вып'е...

**Язэп**—Дагаварваешся, каб больш перапала—не спадзявайся: не на такога напала... *(П'юць далей—мужчыны па чатыры, а жанчыны па аднэй).*

**Язэп**—А дзе-ж гэта наша маладая?.. Малады сядзіць, як курыца якая...

**Матруна**—Зараз, сватка, прыдзе... Кумка, пазаві ты яе... *(Аўгіньня выходзіць. Госьці частуюцца, вельмі весела. Уваходзіць маладая і некалькі дзяўчат, яны—саромеюцца і стаяць каля парогу)...*

## ЗЬЯВА 5-я.

**Язэп**—Дык чаго-ж гэта вы там спыніліся?.. Туды, туды трапілі—не памыліліся... А, можа, і сонца, што сядзіць каля ваконца, бліскуча, што глядзець на яго балюча?.. *(Паказвае на Лявона, які перагаварваецца з Зьмітраком, і нешта сьмяюцца абодвы)...* А мо' баіцёся, што старэйшы сват у сорам укачае?.. Хай ніхто гэтага не чакае... Гаварыць—я гавару, але цераз меру не бяру. *(Дзяўчаты не падыходзяць).* Ага, я дагадаўся, дый гэтага спадзяваўся: чакаюць дзяўчаты, каб папрасілі іх хлапчаты... Ну, Лявон, прасі Марылю, а ты, Зьмітрок—Ганулю... *(Хлопцы пальцамі падзываюць дзяўчат, тыя падыходзяць да стала, п'юць, саромеючыся, і адыходзяць у другі кут).*

**Зяноўя**—Эй, сват, бочка твая рассохлася: клёпкі чапаюць...

**Аўгіньня**—Дык трэба абручы мацней нагнаць.

**Язэп**—Ды вы, сваценькі, памыліліся—відаць, што занадта пахмяліліся... Не бочка ў мяне, а біклажка, ды яна-ж яшчэ цяжка. *(Падымае і гушкае біклажку).*

**Зяноўя**—А гэта што?.. Можа, не прызнаецеся?.. *(Паказвае парожнюю бутэльку).*

**Язэп**—Праўда, мая бутэлька, але-ж не парожнюю я аддаваў яе толька...

**Зяноўя**—Ну, дык вось трэба набіць абручы, каб не высыхала гарэлка. *(Даюць свату трымаць бутэльку. Адна з свацьцяў бярэ мяла, а другая—пояс, якім абвязвае бутэльку. У гэты час першая свацьця, набіваючы обручы (пояс) стараецца выцець старэйшага свата па руках, але той не даецца).*

**Аўгіньня**—Дзяржы-ж, сватка, ляпей, а то клёпкі раскідаюцца. *(Сват трымаецца, а як толькі свацьця меціцца ўдарыць, ён адхватвае рукі, і мяла пападае па стале. Усе рагочуць).*

**Язэп**—Э, свацьця, не за сваё ўзялася... Пакуль абручы на бочку наб'еш, дык стол дашчэнту паб'еш.

*(Урэшце бутэльку абвязваюць поясам і аддаюць свату, той дае свацьцям барышу).*

**Язэп**—Ну, работніца, натаўклася ў ступе вады?.. На ўжо, прагані смагу, бо спаражніць трэба біклагу. *(Налівае і дае піць усім... Раптам адчыняюцца дзьверы, і ў хату ўбягае Параска. Усе зьдзіўлены, акрамя свата, які прымае Параску за звычайную госьцю)...*

## ЗЬЯВА 6-я.

**Параска**—Дзень добры!.. Хоць не звалі мяне на барыш, але я сама прышла... Без мяне, знаць, і гарэлку ўсю папілі?.. Што-ж, такая ўжо няшчасная я ўрадзілася...

**Язэп**—Дык чаго-ж ты спазьнілася?.. На, выпі вось хоць крошку, ды будзем разыходзіцца патрошку... *(Налівае і дае Парасцы).*

**Параска** (*бярэ чарку*). Лявон, ты не чакаў мяне на свой барыш?.. Думаў, што Параску, як суку, можна адштырыць і быць спакойным?.. Памыліўся, дзяціна... Параска ўмее любіць, але яна ўмее і мсьціць... Як разьбіваецца вось гэта чарка і разьліваецца гарэлка (*кідае аб падлогу чарку, якая разьбіваецца на дробныя кавалачкі*), так разаб'ю я ваша жыцьцё, і праліваць вы будзеце так сьлёзы. (*Усе паўскаквалі*).

**Лявон**—Стрымайся, шалёная!.. Чаго табе ад мяне трэба?.. Чаго ты, як сьляпень у гарачыню, ганяешся за мною?..

**Параска**—Не як сьляпень, а як страшэнны цень, я буду хадзіць за вамі, пільна прыглядацца на вас... Калі вы пажадаеце зрабіць сабе хвіліну шчасьця і быць блізкімі, я, як бязьлітасны злодзей, стану адкрадаць ад вас гэта шчасьце... Калі вы будзеце цалавацца, я атруту пасыплю на вашы вусны, і ў сваім пацалунку вы атруціце ўсё сваё жыцьце і каханьне!..

**Марыля** (*трасучыся ад страху*) Ай, мне страшна!.. Чаго яна грагае!... Праганеце яе!.. (*Плача*).

**Лявон** (*выскаквае з-за стала*) Пайшла вон адсюль!.. (*Хапае за плечы Параску і трасе*) Як гадзюку, я раздаўлю цябе наперад, чымся ты атруціш нам жыцьцё!..

**Параска** (*вырываючыся*) Не чапай мяне, здраднік!.. Згвалтаваў, укінуў у гразь, а зараз яшчэ ляжачую хочаш біць!..

**Лявон**—На чорта ты мне здалася!.. Слухай, ідзі адгэтуль, і кажу табе яшчэ раз: не станавіся папярок дарогі!..

**Параска**—Ага, не станавіся!.. А чаму-ж маё шчасьце маюць права разьбіваць?.. Не, недавярак, калі пачынаюць мяне біць балюча, то я не буду ляжаць моўчкі, а буду грызьціся, кідацца, як шалёны зьвер, выдзіраць вочы, крычаць, біць, ламаць!.. (*Крычыць і б'е кулакамі па стале... Талеркі і шклянкі валяцца і разьбіваюцца. У хаце перапалох*).

**Марыля**—Праганеце яе!.. Яна яшчэ Лявону што зробіць!..

**Параска**—Ага, ты баішся за Лявона... Дык паслухайце-ж, людзі добрыя, хто такі Лявон... Усім вам вядома, маё жыцьцё... Сіроцінкаю засталася я пятнаццацёх гадоў... Усяго даволі наглядзелася Параска: і голаду, і сьцюжы, і боек, і зьдзекаў... А тут яшчэ сястра-дзіця была на руках... Выссалі мяне людзі ўсю... Як п'яўкі... Заставалася ў мяне яшчэ чэсьць дзявочая, якую я берагла несупынна... Але сустрэўся на маёй жыцьцёвай дарозе вось гэты чалавек... Як хораша гаварыў ён!.. Я не памятала сябе... Сэрца маё расчынілася... І вось тады ён, як злодзей, цёмнай ночкай абакраў мяне. Самы дарагі скарб мой у яго руках!.. (*Моцна плача. Усе, зьдзіўленыя, глядзяць адзін на аднаго*).

**Марыля** (*кідаючыся да маткі*) Мамачка, што-ж гэта робіцца!.. Я не пераджыву!.. (*Плача*).

**Лявон** (*падбягаючы да Марылі*) Марыля, не вер ні аднаму яе слову!.. Яна гаворыць гэта затым, каб нас разлучыць.

**Марыля**—Лявон, ты не маніш?.. Кажы праўду... Лепей цяпер усё ведаць...

**Лявон**—Табе я ніколі не зманю!..

**Марыля**—Веру табе, мой любы, як самой сабе...

**Параска** (*нэрвова рагоча*) Вер, вер, Марылька... Вось гэтак ён і мне гаварыў!..

**Марыля**—А ты, патаскуха, не заві мяне так!.. Памятаеш, што ты на рацэ хацела зрабіць са мною?.. Не Лявон здраднік, а ты—душагубка!.. Вон з хаты!.. (*Кідаецца да Параскі і б'е яе па твары*).

**Параска** (*глухім голасам*) А, дык і ты яшчэ мяне б'еш?.. Добра!.. (*Як п'яная, выходзіць з хаты. Язэп круціць галавою. Усе пачынаюць адзін з адным гаварыць*).

Заслона.

## III ДЗЕЯ.

Хата Цімаха. Дэкарацыя другой дзеі. Бацькі маладой і некалькі госьцяў.

### ЗЬЯВА 1-ая.

**Цімох**—Вот ужо поўдзень, а іх няма. Хаця-б чаго там не вышла... А, можа, бацькі Лявона занатурыліся ды супраць вясельля... Дык гэта-ж сорам тады будзе на ўвесь сьвет. Абясславяць нашу Марылю.

**Зяноўя**—Што ты, кум, чаўпеш... Навошта дапушчаць такія чорныя думкі... Мала што магло затрымаць заручнікаў... Пакуль Лявон зьбярэ радню, пакуль выправяць яго ў дарогу, дык ці мала часу пройдзе?..

**Матруна**—А я вось як падумаю, што трэба будзе з Марылькай растацца, дык нават рада, што заручыны не едуць... Чым пазьней яны прыедуць, тым больш мая дачушка пабудзе пры мне...

**Зяноўя**—І ты, кума, кінь аб гэтым... Памятай, што Марылі ўжо дваццаць гадоў... Як раз пара замуж... Цяпер такі сьвет пайшоў: з малым пасагам можна засядзецца ў бацькі, хай сабе, вельмі прыгожая дзяўчына... А тут трапіўся чалавек, якому кожная пазайздросьціць.

**Матруна**—Яно так, але шкада мне маю пястушку... Яна-ж ніколі мне дрэннага слова не сказала.

**Зяноўя**—Заўсёды мы так гаворым, як разыходзімся з блізкім чалавекам... Здаецца, анёл ды ўсё... А калі парыцца пільней, дык і знойдзецца што-небудзь. Ну, ды гэта да слова трапілася...

**Матруна**—Канешне, нічога ўжо цяпер не пераробіш... Хай шчасьліва будзе маё дзіцятка... Хай-бы цешылася маё матчына сэрца...

*(Уваходзіць Марыля).*

### ЗЬЯВА 2-я.

**Марыля**—Мамачка, родная мая... І чаму маё сэрце так шчыміць... *(Горніцца да маткі).* Як падумаю, што прыдзецца быць далёка ад цябе, у чужой сямейцы, прамяняць цябе, родную, на злую сьвякруху,— дык страшна неяк робіцца... Зараз вось зазвоняць званкі, зайграюць музыкі... Але гэтыя званкі і скрыпкі, як нажом, будуць раніць маё сэрца... Яны скажуць, што блізка, блізка часіна нашага разьвітаньня... *(Матруна плача і бліжэй горне да сябе дачку... Госьці пачынаюць сьпяваць):*

„Мамачка, мая родная,
Аддаеш да не вёдаеш,
Які мой да мужык будзе...
Ці гультай, ці п‘яніца,
Ці вялікі нядбайніца...
Дзень пры дні п‘е, гуляе,
Вечарам у карты йграе...
Карчомкі ды не мінае...
У цэркаўку ды сьлядок кладзе,
У карчомку шасьцярык нясе“...

*(Бацька сядзіць каля стала, апусьціўшы галаву)...*

**Матруна**—Якая доля чакае цябе, маё дзіцятка?.. На барышы гэтакае здарылася... Што за чалавек Лявон?.. Можа, праўда ўсё тое, што Параска казала...

**Марыля**—Мамачка, не кратай маіх болек... Я сама аб гэтым дзень і ноч думаю... Але я веру Лявону!.. Калі ён абманіць мяне, дык я не перажыву гэтага...

(*Уваходзіць, як ноч цёмная, Параска*).

**Параска**—Чаго спалохаліся?.. Хіба я такая страшная?

**Цімох**—Чаго прышла? Зноў пасуду біць?

**Параска**—Навошта-ж я маю яе біць... У вас жа сёньня пачынаецца вясельле—дык спатрэбіцца. *(Моцна, нэрвова плача... Усе пераглядаюцца паміж сабою)...*

**Зяноуя** *(Падыходзячы да Парасکі).* Супакойся, Паруша... Чаго ты так разгорнілася?.. *(Гладзіць яе, ад чаго Параска яшчэ мацней плача).* Ну, ты скажы нам, чаго прышла?.. Можа, мы і аблегчым твоё сэрца...

**Параска**—Я сама добра не ведаю, чаго прышла... Не вераць мне... Чаму-ж я гэтак верыла людзям!.. *(Зноў плача).*

**Матруна**—У чым табе не вераць?.. Скажы...

**Параска**—Пытаецеся?.. Ну, добра... Яшчэ раз скажу... Не вераць людзі, што Лявон павінен са мною жаніцца!..

**Марыля** *(Устаючы).* А калі я скажу, што і са мною ўжо ён павінен жаніцца!..

**Цімох**—Марыля, што гэта ты? Пры людзях... пры бацькох?.. Ці наша ты, Марыля? Ці не падмяніў цябе хто?..

**Марыля** *(кідаючыся матцы на грудзі і ўзрыгуючы).* Не ведаю я, што са мною рабіцца... Гэта не я сказала, а маё разарванае сэрца...

**Матруна**—Госпадухна—бацюхна... Што-ж гэта дзеецца... Дачушка... Як-жа гэта ты папусьцілася... *(Галосіць).*

**Цімох**—Даволі глушыць хату!.. Наблудзілі, ну, і трэба расхлёбваць... Скарэй-бы заручыны ехалі...

**Параска** *(рагочучы).* Ну, што, Марыля, і зараз верыш Лявону?..

**Марыля**—Больш, чымся табе!..

**Параска**—Дык аб гэтым усе тут чулі—сама прызналася...

**Матруна**—Што чулі?.. У чым прызналася?.. Шчанё ты паршывае, што ты выдумляеш... Сама хочаш за Лявона, дык чорт ведае, на якія хітрыкі кідаешся... Вон з хаты, брахуха!..

**Параска**—Ага, узяло за жывое, што і дачку спасьцігла тая-ж доля, што і Параску...

**Цімох**—Не раўняй маю дачку да сябе!.. Яна не выцірала над платамі крапівы, як ты!..

**Параска**—А на вошта ёй крапіва, калі ў клеці, на мяккіх падушках, амаль на вачох у бацькоў, ляпей...

**Марыля** *(злосная).* Ты бачыла?..

**Параска** *(стоячы супроць яе).* Ты сама сказала...

**Марыля**—Патаскуха!..

**Параска**—Паціруха!..

**Цімох**—Каб і духу твайго тут не было!.. Чуеш?..

**Параска**—Іду, іду, але на заручынах буду!... *(Пайшла).*

**Цімох**—Вясёлае робіш вясельле, дачушка... Дзякуем, дагадзіла бацьком за ўсе пяшчоты... *(Марыля плача).*

**Матруна**—Абы толькі скарэй вясельле згуляць .. А там хай сабе мелюць людзі...

**Зяноуя**—Дык Параска-ж зараз можа разьнесьці па сяле...

*(За вакном голас: „Дзядзька Цімох, за сялом заручыны едуць!"... Усе забегалі... Засьцілаюць стол, кладуць хлеб, наогул наводзяць у хаце парадак... Чуваць скрыпка і званкі. Зяноўя падыходзіць да вакна і пільна ўглядаецца).*

**Зяноуя**—Ці шмат-жа заручнікаў?.. *(Лічыць).* На першым возе—чатыры... а на другім—тры. Не вельмі шмат—як раз умеру... А я думала: Лявон, як багаты, дык і трынаццать пасадзіць...

*(Марыля выбягае з хаты. Цімох глядзіць у вакно)*... Кумок, ты-ж бы пайшоў на сустрач....

(*У хату уваходзяць: Язэп, Лявон, Зьмітрок, музыка і іншыя заручнікі*).

ЗЬЯВА 4-я

**Язэп**—Дзень добры свату ў хату... Ну, як, сват, свацьця, жывяцё, хлеб-соль жуяцё?..

**Цімох**—Дзень добры, дзень добры, сватка... А ў цябе-ж усё йдзе гладка?..

**Язэп**—Гладка то гладка, але не ў гэтым рэч, сватка... Бач, едучы. з дарогі мы зьбіліся да паўдня круціліся... Пакуль-жа да свата прыпхаліся—дык дужа прагаладаліся...

**Матруна**—Дык калі ласка, лезьце за стол... *(Тыя садзяцца ў такім парадку: Язэп на кут, Лявон—з левага боку свата, каля Лявона Зьмітрок, за ім музыка і г. д... Кабеты ставяць на стол закуску... Музыка грае заручыны).*

**Язэп** *(Наліваючы чару, да Цімоха).* Ну, сват, хай канчаецца, як пачынаецца, але хай не пачынаецца, як канчаецца.

**Цімох**—Дзякую, сватка, за добрае пажаданьне... Не хацелася-б, каб заручыны кончыліся так, як барыш... *(Пьюць і закусваюць... У хату налазіць шмат людзей. Потым уваходзіць Марыля з дзяўчатамі—дружкамі... Марыля засмучоная).*

ЗЬЯВА 5-я.

**Язэп**—А, і Марылька ідзе да нас... Не бачыў цябе доўгі час... Дай наглядзецца на цябе бліжэй, тады мо' гарэлка пойдзе сьліжэй... *(Марыля подыходціць да стала і цалуе ў руку старэйшаму свату, з іншымі вітаецца, схіліўшы галаву)*...

**Язэп**—А чаго-ж гэта скупіліся дзяўчаты, як у гарачыню цяляты. Ідзеце да нас—пачастуем мы вас... *(Тыя падыходзяць, Язэп налівае бутэлькі і дае Марылі, тая частуе таварышак).*

**Язэп**—А цяпер, даражэнькія, любеце не любеце, а маладую прыбіраць ідзеце... К вянцу трэба не спазьніцца, а то поп будзе крывіцца... Зьдярэ з нас тры скуры, бо такой ўжо натуры...

**Цімох**—Яно праўда, хай лепш без усялякіх перашкод робіцца... *(Дзяўчаты выходзяць, за імі сыпле ўвесь народ з хаты).*

**Язэп**—Ну, а мы яшчэ па некалькі стукнем, дады мо' сьмялей тупнем... Ты, Лявон, хвац\і чарку-другую ды ідзі падмаўляць маладую... А ты, брусьнік, сёрбай налба, не сядзі, як тая налпа... Трэба, каб сьпявалі дружкі, пашамполься ім на істужкі... (*Хлопцы п'юць і выходзяць).*

**Язэп**—А вы, свацьці, што сядзіцё, як куры—гэта-ж вясельле, а не хаўтуры... Трэба сёньня песьні пеці, а не моўчачы сядзеці... Вось і музыка з вёскі Рыбцы—падыграе вам на скрыпцы... (*Музыка грае „заручыны“, а кабеты сьпяваюць):*

„А сягоньня ды заручыны бог нам даў,  
То таму, то сяму па падарачку ён нам даў...  
Нашаму Лявонку тры падарачкі бог яму даў:  
Першы падарак—шаўковую хусту ён яму даў,  
А другі падарак—залаты персьцень бог яму даў.  
Трэці падарак—маладу Марыльку ён яму даў...  
Шаўковую хустку—уціраціся бог яму даў,  
Залаты персьцень—вянчаціся бог яму даў,  
Маладу Марыльку—пацяшаціся ён яму даў“...

**Яэзп**—Добра, сваціці, пяяце, але трохі дзераце... Трэба даць вам весялухі—засьпявайце'к маладухі...

**Аугіньня**—Во цяпер я ўжо і „Юрку" сыпнула-б... Нешта ногі дрыжыкі бяруць.

**Яэзп**—Вось часіна настала—гэтак свацьцю забрала... Рэж, музыка, на ўсе застаўкі—хай праветрацца ластаўкі...

**Цімох**—Не, сват, так не гадзіцца... Мы-ж не нехрысьці якія. Хай павянчаюцца маладыя, хай усё зробіцца па закону, тады і сам я не проч сыпнуць з кумою што-небудзь...

**Яэзп**—Праўду, сватка, кажаш... Гэта-ж я зусім з глузду зьехаў... А ўсё свацьця вінавата: яна мяне зьбіла з панталыку.

**Зяноўя**—Вы, сваткі, нас выбачайце—мы пойдзем на часінку. (*Выходзяць*).

**Яэзп**—Эге, кінулі нас кабеты... Давайце-ж піць за гэта... (*Бярэ парожнюю бутэльку і глядзіць на яе*). Вось табе і на: не убачыў, як і гарэлку патраціў... (*Круціць галавою*). Вось дык спадакпіўся—да чаго дажыўся: на стале стаіць скорам, а гарэлкі няма—сорам...

**Цімох**—Як бачу, дык нічога з сватам не зробіш... Хай ужо будзе і закуска мая, і гарэлка мая... Можа, трапіцца, што сват калі-небудзь аддасьць доўг...

**Яэзп**—Вось, сват, дагадлівы і надта спагадлівы... Дык вып'ем жа за свата, за свацьцю і за маладых... Хай будуць старыя любавацца, як пачнуць іх дзеці цалавацца!.. (*П'юць, гоман*).

## ЗЬЯВА 6-я.

*(У хату ўваходзяць кабеты. Маладая ў вянку, дружкі, малады, брусьнік, музыка і шмат людзей... Таўханіна, гоман. Малады лезе за стол, хлопцы за ім. Маладая падыходзіць да Яэзпа, кланяецца нізка, Ганна лье з конаўкі ваду на рукі свата, маладая падае рушнік—падарак, якім той выцірае рукі, а потым завязвае каля сярэдзіны. Гэта робіць маладая з кожным заручнікам, акрамя маладога. У гэты час дружкі сьпяваюць:*

„Не крыўдуйце, маршалкі,
Што кароткі падаркі...
Па ігрышчах хадзіла,
Кудзеля не ўрадзіла...
'Шчэ к таму ды драмалася,
Не тонка папралася,
Не добра паткалася"...

*З маладым прараблеяцца наступная працэція: малады налівае чарку гарэлкі і п'е да маладой, тая выпівае, налівае зноў, а на верх чаркі кладзе бялюткую хустку. Малады прымае свой падарак, выпівае гарэлку, зноў налівае, кідае ў чарку сярэбраны рубель і падае маладой. Тая выпівае, а рубель забірае ў хустку.*

*Пасьля гэтага маладая лезе за стол і садзіцца з правага боку ў маладога, дружкі каля яе).*

**Яэзп**—Вось цяпер дык весела нам будзе: паселі, як кветачкі ў гародзе—ну, макавачкі ды годзе... Толькі гэтыя макавачкі трэба палеяць, а то яны ад сораму аж млеюць. (*Налівае гарэлку і дае дружкам, тыя п'юць*). Ну, а зараз трэба рабіць ужо абрад—весьці Марылю на пасад... Вы, бацька і маці, бярэце ікону і рабеце ўсё па закону. (*Усе вылазяць з-за стала, апошні адсоўваюць ад лаў, каб можна было прайсьці некалькім чалавекам. Хросны бацька бярэ хустку, за другі канец яе бярэцца Марыля... Народ адступаецца да дзьвярэй.*

*Ігнат урачыста водзіць маладую вакол стала. Перад тым, як весьці першы раз, ён гукае:* „Айцец і маці, добрыя людзі, благаславеце маладую на пасад“ *яму адказваюць:* „Бог- благасловіць!“..—„Другі раз!“..—„Бог благасловіць!“..—„Трэці раз!“—„Бог благасловіць!..“

У гэты час дружкі сьпяваюць:

„Да ляцелі гусачкі цераз сад,
Да вялелі Марыльцы на пасад...
Да вялелі Марыльцы на пасад,
Ці ёсьць ў цябе, Марылька, родны брат...
А што-ж вам, гусачкі, да таго,
Ёсьць у мяне татачка для таго...“

(*Марыля кланяецца ў ногі бацьку і прычытвае*):

„А, татачка родны, благаславі на пасад...

*(Гэтак яна прарабляе перад маткай і блізкімі роднымі. Калі Марыля кланяецца апошні раз, ёй на галаву з крыкам кідаецца кошка. Марыля ўсхватваецца і кідаецца да маткі. У хаце перапалох).*

**Ганна**—Гэта Параска кінула, я згледзела...

**Усе**—Лавеце яе!..

**Параска** *(выходзячы на сярэдзіну хаты)* Навошта лавіць, калі я сама тут перад вамі. .

**Матруна**—Каб ты не ўзгадавалася, шчанё... Што ты гэта ўздумала?..

**Параска**—А тое і ўздумала, каб твая дачушка, мая разлучніца, усё сваё жыцьцё грызлася з Лявонам, як каты...

**Лявон**—Ты і тут не абышлася без гадасьцяў... Вон, паскуда!..

**Параска**—У тваёй хаце, што гоніш?.. Ды і чаго гогалем расхадзіўся?.. Узялі вось ды спужаліся цябе...

**Лявон**—А вось і спужаешся. (*Падбягае да Парасі, хапае яе за валасы, кідае аб падлогу і цягне вон... Параска дзіка крычыць*).

**Параска**—Людцэ, родныя! Ратуйце мяне!.. (*У сенцы ўбягае Кастусь*).

ЗЬЯВА 7-я.

**Кастусь** (*хватаючы Лявона за каўнер*).. Ты яе гадаваў, што сьмеш біць?.. Прэч рукі!..

**Лявон** (*строусіўшы*) А ты хто такі?.. Табе якое дзела?..

**Кастусь**—Я той, хто не дасьць крыўдзіць і так ужо пакрыўджаных такімі вось мярзаўцамі, як ты...

**Параска** (*устаючы*) Ага, скурчыўся, як сабака... Ты думаў, што няма людзей, якія стануць на забарону Параскі-сіраціны?..

**Лявон** Я не дазволю сябе абразіць!.. Гэй, Мірон, хлопцы, сюды!.. (*Выходзяць хлопцы*).

**Кастусь** (*закасваючы рукавы і плюючы ў кулакі*) А ну, падыходзь, п‘яныя морды... Скора працьвярожу!.. (*Хлопцы зноў хаваюцца... Лявон не ведае, што рабіць*)...

**Кастусь**—Падыходзь, павянчаю... І папа не трэба будзе... Я задарам...

**Параска** (*рагочучы*) У, трус апошні!.. Што, гэта табе не з бабамі ваявацъ!.. (*Заліваецца рогатам*).

(*Уваходзіць Язэп*).

ЗЬЯВА 8-я.

**Язэп**—Чага-ж гэта рагоча?.. Гарэлкі мо‘хоча?.. (*Познае*) А, дык гэта-ж тая... Параска... Толькі не бі пасуды, калі ласка!..

**Параска**—Жыцьцё я яго разаб'ю!..

**Язэп**—Ой, як страшна!.. Млосна ажна!.. А, Лявон, што стаіш і авечкай гладзіш?.. Коні ўжо ля ганку ждуць, капытом аб зямлю б'юць... Маўчыць нешта і музыка, ды і сваць і без языка... (*Глядзіць на ўсіх, зьдзіўлены... Музыка пачынае граць марш... Лявон бярэ пад руку Марылю і вядзе на двор, за імі валіць народ... Калі Марыля праходзіць каля Парасці, то ўзрокі іх сустрэліся... Марыля спыняецца на хвілінку і з пагардай глядзіць на суперніцу... Параска адказвае тым-жа... Усе з цікавасьцю глядзяць на іх... Пайшлі... На двары званкі і гоман людзей*).

Заслона.

## ДЗЕЯ IV.

Хата Цімаха. Дэкарацыя II и III дз. Усё прыбрана... Шмат гасьцей... На сталох гарэлка і закуска. Шумна, вясела. Госьці, якія сядзяць за сталамі, падвыпіўшы, сьпяваюць:

### ЗЬЯВА 1-я.

„А што ў полі за трава,
А што ў полі за трава?..
Баліць мая галава...
Шуміць у маёй галаве,
Шуміць у маёй галаве—
Далёка мілы жыве.
Запражы, татка, каня,
Запражы, татка, каня,
Я паеду хоць адна“...

**Цімох**—Эх, і цягняцё-ж вы нудоту, не роўнячы, як жабы вясною ў балоце... Трэба, знаць, ляпей прачысьціць горлы, можа, што і выйдзе...

**Зяноўя**—Вось кум дагадлівы, адразу сьцяміў, як баб раскратаць...

**Цімох**—Ну, дык дзяржы-ж, шчабятуха, чарку... А ты, кум Ігнат, пачынай там з другога канца, скарэй будзе... (*Пачынаюць піць, вялікі гоман, кабеты тарокаюцца, мужчыны прымушаюць іх... Зараз-жа кабеты пачынаюць пець*):

„Мамачка мая родная,
Аддаеш мяне маладую,
Спраў-жа мне скрыню залатую...
Да прыкуй салавеячку,
Да прыкуй шчабятлівага...
Салавейка ды сьпяваць будзе,
Нас рана пабуджаць будзе“...

**Ігнат**—Ну зноў зацягнулі, як апошняе ў печ укінуўшы... Ці варта вам за гэта гарэлку даваць... Рэзьніце такую, каб аж дзед Ануфрэй не ўседзеў...

**Ануфрэй**—Ах, вы блазнота!.. Што-ж вы думаеце дзед Ануфрэй не падатрэ вам насы?.. А-ну, кабеткі, рэжце!.. (*Кабеты сьпяваюць, Ануфрэй скача*):

„А на гары ды каты трубяць,
Чаму-ж мяне хлопцы не любяць?..
Годзе, годзе, каты, трубіці,
Можа, будуць дзеўкі любіці“...
„Я учора не вячэрала,
Забалела маё чэрава...
Стала я ды кісель есьці,
Стала мяне ў жываце трэсьці“...

(*Анупрэй пайшоў упрысядкі, аж пакуль сярод хаты не расплыўся, яго падхватваюць і рагочуць*).

**Марцэля**—Дык не дажджыцё-ж вы, каб з старых кпіць і сьмяяца... (*Сама прыпявае і скача, махаючы хустачкай*):

„Ой ты, стары, я молада,
Вядзі мяне да горада.
А ў горадзе прадасі,
Балабушак пад'ясі"...

„Ходзіць бусел па балоце
Ды шукае чаплю,
Ці ўночы, ці ў паўночы
Я к міламу траплю"...

**Усе** (*ляскаючы ў ладкі*). Добра, цётка Марцэля, вельмі добра!..

**Анупрэй**—Вось толькі Марцэлька мне пара ў скоках... Давай, старая, руку за храбрасьць!.. (*бярэ яе руку*). А, можа, і пацалуемся?..

**Марцэля**—Ідзі, стары корч, можа, яшчэ чаго табе зажадаецца?. (*Усе рагочуць... За вакном крык: „сваты едуць!.." У хаце ўсе забегалі. Мужчыны кідаюцца на двор зачыняць вароты, кабеты глядзяць у вокны... Зьвіняць званкі, музыка грае марш... За сцэнай прыехаўшыя сваццы сьпяваюць*):

„Падлятаюць сакалы пад вішнёвыя сады...
Выклікаюць зязюлю:
Зязюля наша сівая, ці палеціш ты з намі?..
Із намі, з сакаламі?..
— Рада-б я ды паляцеці,
Жаль саду ды пакінуці...
Жаль саду вішнёвага,
Вішанек чырвоненькіх,
Яблычкаў ды зялёненькіх...
Пад'яжджаюць сватове под
новыя сенечкі,

Дзе гуляюць дзевачкі,
Выклікаюць Марыльку...
—Марылька, наша пані, ці паедзеш
ты з намі?..
Із намі ды з сватамі?..
— Рада-б я ды паехаці,
Жаль мамкі ды пакінуці...
Жаль мамкі ды старэнькае,
Сястрыцы маладзенькае"...

*Зараз-жа чутна і гамонка за сцэнай:*

**Ст. сват**—Людцэ добрыя, пусьцеце адпачыць падарожным: коні нашы патаміліся, самі мы папыліліся...

**Ігнат**—Мы не ведаем, што вы за людзі; калі пусціць—ці добра будзе...

**Язэп**—Дык мы-ж пакажам вам паперы—ужо-ж не зганім вам квартэры...

**Ігнат**—Калі так, ну дык ідзеце, але-ж барыш з сабой нясеце...

**Язэп**—Мы дадзем вам паўбутэльку, бо прыехалі па дзеўку...

(*Чуцен стук варот і песьня кабет*):

„Да ў гордае цешчы,
Да ў гордае цешчы
Стой зяць за варотамі...
А на зяця да мяцель мяце,
А на зяця да мяцель мяце,
А на зяця дробны дождж ідзе...
Ўкрыйся, зяцю, ўкрыйся,
Укрыйся, зяцю, ўкрыйся,
Да кунямі ўбярыся...

Да кунямі, бабрамі,
Да кунямі, бабрамі,
Чорнымі ды сабалямі"...

(*У хату ўваходзіць маладая з дружкамі і садзяца за стол, дружкі сьпяваюць*):

## ЗЬЯВА 2-я.

„Ой, сватове-гардове,
Чаго вы спазьніліся?
Ці сабак бараніліся,
Ці свата ды не ведалі,
У чужы хлеў ды заехалі?
Аб здароўі папыталіся?“...
Да быку руку далі,
Казе шапку вы зьнялі,
З сьвіньнёю павіталіся,..

(*У хату ўваходзяць: Язэп, Лявон, брусьнік, музыка і іншыя прыехаўшыя сваты*).

## ЗЬЯВА 3-я.

**Язэп**—Дзень добры ў хату... Ці не занудзіліся па свату?.. (*Да дзяўчат*). А вы, шчабятушкі, усё пеяцё і нас к сабе завяцё...

**Ганна**—І не думалі зваць... Нам і адным добра...

**Язэп**—Сапраўды?.. Ой маніш, дзяўчына, маніш... А мо' яшчэ што дабавіш?..

**Ганна**—А тое дабаўлю, што не загаварвайце нам зубы і не падлашчвайцеся, бо нас гэтым не купіце...

**Язэп**—Вось дык зельлейка!.. Ну й вясельлейка!.. (*Да хлопцаў*): Ну, малайцы, самі хадзеце каля іх, а я папхнуся да старых... (*Ідзе да старых свацьцяў і гутарыць з імі*).

**Зьмітрок** (*да дружак*). Хіба-ж вы нас не спазналі?.. Мы ўжо старыя знаёмыя... Пусьцеце нас да сябе ў кумпанію...

**Ганна**—Мы дарам нікога не прымаем... Заплаціце—тады сядзеце...

**Лявон**—Няўжо-ж і Марыля мяне не спазнала?.. Здаецца, учора мы так блізенька пазнаёміліся...

**Ганна**—Можа, Марылі і жадалася-б, каб ты ля яе блізенька сеў, але тут зараз не яе воля, а наша... Думаеце, так задарма мы яе вам і аддамо?.. Памыляецеся... Доўга трэба будзе шамполіцца ў кішэнях...

**Зьмітрок**—Цікава, колькі запросіце?.. Поўна грошай, як мне здаецца, вы і палічыць не здолееце...

**Ганна**—Вас не будзем прасіць...

**Зьмітрок** (*дастае з партаманэта грошы*). Вось маеце...

(*Дружкі глядзяць, бачаць, што мала, ды сьпяваюць*):

„Ой нашто-ж нам гэта,
Вазьмі сабе гэта...
Ідзі ты на места,
Купі сабе мыла,
Памый сваё рыла,
Каб жонка любіла,
Каб дзеці пазналі,
Каб бацькам назвалі“...

**Зьмітрок**—Навошта-ж мне мыцца?.. хіба-ж я запэцканы?..

**Ганна**—Вазьмі люстэрка ды паглядзіся...

**Зьмітрок**—Баюся, бо яшчэ і за гэта грошы зьдзярыцё...

**Ганна**—У-га як відаць, дык брусьнік наш вельмі багаты: аб грошах толькі і гаварыць, а як прыдзецца даваць, дык лягчэй галаву з яго зьняць... (*Дзяўчаты рагочуць*)...

**Зьмітрок**—А-я-яй... Думаеце, што гэтым мяне ў сорам укачалі?.. Хто грошы ў кішэні носіць, той есьці не просіць...

**Ганна**—Ого-го, як відаць, добры з цябе і гаспадар... Дзевачкі, запамятайце гэта... (*Тыя сьмяюцца*).

**Зьмітрок**—Ну, калі не возьмеце вось тэтага (*дастае грошы*), дык на большае не спадзявайцеся... Вы дорага цэніце сваю маладую за тое, што яна вельмі прыгожая... Не горшы-ж і наш малады...

**Ганна** (*рагочучы*). І трэба яшчэ раўняць... Хіба вачэй не маеце?.. Дык паслухайце (*сьпяваюць*):

„Ваш малады—пень гарэлы,
Наша малада, як сыр белы...
Ваш малады, як засланка,
Наша малада, як ластаўка“...

**Язэп** (*падыходзячы да стала*). Ну, што?.. Пагадзіліся?.. Глядзеце, дзяцюкі, каб не памыліліся...

**Ганна**—Не бойцеся, сватка, тыя грошы, што яны нам давалі, і сьляпая курыца палічыць...

**Язэп**—Ах вы, блазны, блазны, вось я-чалавек адважны.. Адразу палажу па двацццацы, бо годзе ўжо нам тут матацца... (*Кладзе грошы*).

**Ганна**—Во, відаць, што сталы чалавек... За гэта-ж мы сьпяем вам песьню:

(*Сьпяваюць*):

„Сват-біклага дукаван,
У жоўты боты абуван...
Яны ў яго скрыпяць хараша,
Ад яго гарэлкі горача“...

**Язэп**—Калі-ж пахвалілі маю сівушку, то трэба даць вам па кілішку. (*Дае дзяўчатам гарэлку, тыя п'юць*). Ну, а цяпер, здаецца, мы ў рашчоце, дык не трымайце нас ў клапоце...

(*Маладая і дружкі ўстаюць з-за стала... Зьмітрок выхватае бізун і гоніцца за дружкамі, тыя з гвалтам бягуць з хаты. За сталы лезуць: старэйшы сват, малады, брусьнік, музыка і ўсе прыехаўшыя сваты*)...

**Матруна і Цімох** (*подходзячы да сталоў*). Міласьці просім, сваткі, хлеб-сала на стале, рукі свае—бярэце і ежце на здароўе.

**Язэп**—Э, сват, свацья, так не гадзіцца, спачатку трэба пахмяліцца... Потым будзем хлеб-сала мяці ды сватоў успамінаці. (*Налівае тры чаркі, сабе, свату і сваццы*) Дык прымайцеся-ж...

**Матруна і Цімох**—Хай свату будзе на здароўе. (*П'юць і пачынаюць даваць гарэлку іншым сватам... Гоман, сьмех, прымус, таройканіна*).

**Матруна**—Мацуйцеся, сватка, мацуйцеся, такі-ж трохі прачакаліся.

**Адзін з гасьцей**—Дзякуем, сватка, мы людзі не сарамяжыя: што пастаўлёна, то благаслаўлёна—не турбуйцеся з намі... (*Кабеты сьпяваюць*):

„Не праўда тая людзкая.
Да, казалі, сваццця гордая...
Ажно наша сваццця - вішанька,
Прыступілася блізенька,
Да гаварыць з намі харашэнька“...

**Язэп** (*сьпявае*)

„Біклага мая дубовая,
Затычка ў ёй ліповая...
Абручы на ёй ўсе гарэхавы,
Праўда дны дык алехавы...
Люблю я яе моцна за тое,
Што ў ёй ёсьць зельле прастое...
Пакуль яна, дубова, будзе жыць,
Датуль з яе зельле буду піць...
Калі-ж яе клёпкі разьляцяцца,
Тады мушу з жыцьцём я расстацца“...

**Адна з госцяў**—Вось дык сват наш: ёсьць каго паслухаць...

**Другая**—У сорам не ўкачае: ён не толькі гаварун, але і сьпявун...

**Трэцяя**—Дык хай жа дамовыя сват і свацьця гэта ведаюць і вучацца ў нашага свата, як з гасьцямі абыходзіцца...

(*Кабеты сьпяваюць*):

„Ой, сват свацьці
Паплёў лапці
З таўстых лык,
Ходзіць свацьця
Абдуўшыся, як індык"...

„Ой, дзе-ж тая пайшла,
Да што нам есьці нясла,
На паразе павалілася,
Міса яе разьбілася"...

„Скінулася кошка з печы,
Памачыла ў малако плечы,
Сваты таго ды не ведалі,
Яны ўзялі ды пабедалі"...

**Язэп**—Пачакайце, дзеля нас мала цікава, якая свацьця старая; справа-ж цікавейшая, якая гаспадыня маладзейшая...

**Адна з госцяу**—А праўду наш сват кажа... Гэта-ж каторую ўжо часіну мы тут госьцім, а не бачылі паміж сябе маладой... Хаця-ж паглядзець, які тавар купляем...

**Язэп**—Ды і малады наш маркотны сядзіць і часта ў парог ўсё глядзіць...

**Адна з госцяу**—Нават гарэлка не п'ецца... Каб хоць чутачку да саладзейшая...

**Усе**—Просім сюды Марылю!.. Марылю сюды дайце!.. (*З сенцаў уваходзіць Марыля, яна кланяецца сватом і садзіцц<sup></sup>а каля Лявона*)...

**Язэп**—Вось і соўнейка ўзышло—нам вёсначку прынясло...

**Адна з госцяў**—А калі малады з маладою гарэлку падсалодзяць, дык тады зусім добра зробяць...

**Усе**—Горкая!.. Горкая!..

(*Лявон з Марылей трохі таройкаюцца, але потым цалуюцца. Зараз-жа зьяўляецца ў хаце п'янаватая Параска*)...

## ЗЬЯВА 4-я.

**Параска**—Ха-ха-ха!.. Яшчэ і саромеюцца цалавацца!.. Гэта, знаць, пры чужых людзях?.. (*Усе, зьдзіўленыя, глядзяць на Параску, некаторыя з гасьцей пачынаюць шаптацца і паказваць вачыма на Параску... Марыля зьбялела, як палатно, і прытулілася да Лявона*).

**Параска** Чаго-ж вы ўсе змоўклі?.. Гэта-ж, здаецца, вясельле, а не хаўтуры... Піце, сьпявайце, скачэце!..

(*Пад песьню*) „Шэсьць дзён малаціла,
Шастак зарабіла"...

*пайшла круціцца па хаце, махаючы хустачкай і пад'яхкваючы*).

**Язэп**—Гэй, музыка, грай без духу, а то схопіш, брат, па вуху...

(*Музыка пачынае граць, Язэп выскаквае з-за стала і пачынае выраблять нагамі розныя выкрутасы пад песьні*):

„На вуліцы не была,
V Не бачыла Яся,
Хацеў Ясь паваліць,
А я не далася"...

„Чыкі, чыкі, чыкаточкі,
Паіграйце мне, каточкі...
Я паскачу драпака,
Дам за гэта гусака"...

„Іграй, іграй. іграчу,
А я табе заплачу...
Каробачку пер'я,
І курачку і пеўня"...

(*Рогат і плясканьне ў ладкі*).

**Параска**—Чаму-ж маладыя не павяселяць гасьцей?.. Так не гожа...

**Язэп**—Ну, Параска, мая яска, ідзі-ж да столу, калі ласка... Выпі чарку вось гарэлкі ды закусі з той тарэлкі...

**Параска**—Шчырае дзякую свату... Калі гаспадары не частуюць, дык хоць вы зьвярнулі ўвагу на мяне... (*П'е адну чарку, потым другую... Глядзіць з сьмехам на Лявона*)... Ня рад Параску бачыць?.. А я вось дык не магу жыць, не пабачыўшы цябе. (*Рагоча*)... А чаго-ж Марыля зьбялела?.. Знаць, не добранька?.. Так, сястрыца, у нашым з табой становішчы часта мяняецца настрой... А селядца табе, часам, не хочацца?.. *Усе госьці пачынаюць пераглядвацца, некаторыя нават падсьмейваюцца*).

**Цімох**—Пайшла вон, паціруха, ніхто цябе сюды ня клікаў...

**Параска**—Эге, дзядзька Цімох, не вельмі-ж ты далікатна гасьцей прымаеш... І людзей чужых не сорам?..

**Цімох**—Калі ад другіх хочаш далікацтва, дык і сама будзь такою...

**Параска**—Ды я-ж нічога такога... Мне толькі шкада Марылю—па сабе знаю, што гэта значыць „на маладое"... (*Лявон ускаквае, як уколаты, Марыля то чырвнее, то бялее, Цімох і Матруна стаяць, як громам аглушаныя; госьці глядзяць на маладых і на Параску з зацікаўленасьцю*).

**Лявон** (*хоча вылезьці з-за стала*). Пусьцеце мяне!.. Я хачу ад яе даведацца, калі яна мяне пакіне ў пакоі...

**Марыля** (*не пускаючы Лявона*). Лявон, сядзь... (*Выходзіць з-за стала, становіцца процiў Парасκі і гаворыць саркастычна*)... Але ўсё-такі ён мой!.. А ты вось нічога і не выбегала...

**Параска**—Не выбегала, дык выбегаю... Ты Парасчыных ног не шкадуй... Яны лёгкія і ўсюды дапнуць...

**Марыля**—Ну, а зараз вон адсюль!.. Выблішчала дзьве чаркі—і годзе...

**Параска**—А вось-жа сяду і буду сядзець!.. (*Садзіцца на лаве каля Язэпа*)...

**Марыля**—Не, ты не будзеш тут сядзець!.. (*Падыходзіць да Параскі*).

**Параска**—Дык, можа, жадаеш, каб я тут села?.. (*Бяжыць і садзіцца каля Лявона на месца маладой... Усе вельмі зьдзіўлены*)... Вось і я маладая!.. Ха-ха-ха!.. Не чакала нават...

**Лявон** (*сярдзіта вылазіць з-за стола*). Я не магу сядзець за сталом у тых гаспадароў, якія дазваляюць у сваёй уласнай хаце крыўдзіць гасьцей... Гэта чорт ведае, што такое...

**Марыля**—Лявон, куды ты? Пашкадуй мяне...

**Лявон**—А мяне шкадуюць тут?.. (*Адварачваецца і хоча ісьці ў сенцы*).

**Цімох**—Дык чаго-ж, зяцю, вельмі ўжо расфанабэрыўся?.. Хіба па нашай віне яна (*паказвае на Параску*) прышла сюды? Сам заварыў, сам і сёрбай...

(*Язэп круціць галавою, усе госьці кінулі частавацца і сачаць за тым, што робіцца ў хаце*).

**Лявон**—І вас не папрашу аб дапамозе!..

**Цімох**—Ну, і сёрбай сабе на здароўе...

**Параска** (*вылазячы з-за стала*).. Вось я і вясельле пагуляла, і маладою пабыла, хоць, праўда, і без вянка... Ну, але куды там мне зараз вянок той!.. Так вось, як і ёй... (*Паказвае на Марылю*)... Бывайце здаровенькі, прабачайце за турбацыю... Але не бойцеся—можа, я ў даўгу і не буду... (*Выходзіць з хаты... Усе маўчаць... Няпрыемная павуза*).

**Адна з госьцяў** (*знайшоўшыся*)—Вой, і загасьціліся-ж мы ў свата... Трэба і аб доме думаць...

**Многа галасоў**—Праўду, праўду кажуць... Пара ўжо і сорам ведаць... (*Пачынаюць зьбірацца... Кабеты сьпяваюць*):

„Будзьце здаровы,
Жывеце багаты,
Пойдзем-паедзем
Мы з вашае хаты...
У зялёным боры
Начаваці будзем,
Вашае чэсьці
Век не забудзем“...

(*Госьці дзякуюць гаспадаром і выходзяць... Застаюцца: Язэп, Лявон, музыка, брусьнік і ўсе гаспадаровы госьці*).

**Язэп**—Ну, годзе ўжо сварыцца... Рабіць так не гадзіцца... Трэба ўжо і нам зьбірацца, а то будуць, шчэ сьмяяцца... Гэй, сваццьці, рабеце там, што трэба, з маладою, ды паедзем зарыною...

**Марыля** (*кідаючыся матцы на шыю, галосіць*). А, мамачка родная!.. А якое-ж жыцьцё мяне чакае?.. А як-жа мяне сустрэне чужыначка?.. (*Матка таксама плача*)...

**Зяноўя**—Ды годзе ўжо вам... Усё-ж-роўна трэба раставацца... Марылька, заві дружак ды ідзеце за стол... Кумка, а ты бяры сьвечкі-грамніцы і таксама ідзі сюды. (*Прыходзяць дзяўчаты і садзяцца за стол, падыходзіць і матка з сьвечкамі, мужчыны выходзяць у сенцы*)...

**Зяноўя**—Васілёк, ідзі і ты сюды—будзеш-жа Марылі касу расплятаць... (*Падыходзіць малы хлапец, брат Марылі, яму даюць у рукі лучынку; Васілёк становіцца на лаве за плячмі Марылі. Адна з дружак пачынае зьнімаць з маладой вянок, тая горка плача, матка таксама. Дружкі сьпяваюць*):

„Ой, сядзіць Марылька за сталом,
Да бягуць сьлёзачкі ручаём...
А на яе мамачка пазірае,
Як боб, сьлёзачкі раняе...
А, дзіцятка маё маладое,
Я ж цябе расьціла-гадавала.
Гэтакае жаласьці не чакала“...

(*Брат расьплятае касу, б'ючы па ёй лучынкаю, Марыля галосіць*):

„А косачкі русыя,
А не заплятаць вас густа...
А не часаць вас часта.

(*У той-жа час, як маладая галосіць, дружкі зноў пяюць*):

„Няма горшага ката
Над радненькага брата...
Над галоўкаю стаіць,
Войстры меч-шаблю дзяржыць,
У сястрыцы пытае:
Сястрыца мая родная,
Ці галоўку сьцінаці,
Ці русу касу расплятаці?..
— Братачка мой родненькі,
Не сьцінай мне галовачкі,
Расплящі русы косачкі“..

(*Зяноўя бярэ тры зьвязаныя разам сьвечкі, запальвае іх і трэйчы абносіць іх вакол галавы Марылі... Кожны раз яна гаворыць: „Айцец і маці, добрыя людзі, благаслаўеце маладую падстрыгаць!..“ І падпальвае паймінку валасоў... Кожны раз ёй адказваюць: „Бог благаславіць!“*

*„Падстрыгшы“ маладую, дружкі зноў надзяваюць ёй на галаву вянок, а каля шыі абвязваюць намёт... Увесь гэты час маладая павінна сядзець на падушцы*).

**Зяноўя**—Бацька ці маці, нясеце-ж каравай: трэба дарыць маладую на новае жыцьцё... Пазавеце мужчын...

(*На стол ставяць каравай з розньмі фігуркамі, у хату ўваходзяць: Лявон, Язэп, брусьнік, музыка і шмат радні Цімаховай*)...

**Зяноўя**—Сватка, і ты, Лявонка, садзецеся за стол: каравай трэба дзяліць... (*Тыя садзяцца*)...

**Язэп**—Дзе там хто ёсьць: родныя браты і сёстры, дзядзькі і цёткі, далёкія і блізкія, высокія і нізкія,—ідзеце маладую дарыць!.. (*Да стала падыходзяць: бацька, маці і блізкая радня; Язэп рэжа каравай на кавалкі... Першымі дараць бацька і матка: бацька кладзе на стол булку хлеба, на якой ляжаць грошы*)...

**Цімох**—Дару цябе, дзіцятка, хлебам-солю і чым змога—вось уся табе мая дапамога... (*Маладая цалуе бацьку ў руку. Язэп налівае чарку гарэлкі, якую бярэ Цімох і п'е, потым бярэ кавалак караваю... Матка дарыць намётам і грашыма, яна гаворыць тое самае, што і бацька; уся радня дарыць, хто чым можа... Кожнаму сват дае гарэлку і кавалак караваю... У гэты час свацьці пяюць*):

„Да казалі ў бродзе
Вадзіцы многа,
Сталі коні паіці,
Да няма вадзіцы...
Дзе-ж тая вадзіца
Ды падзявалася?
Па ўсіх крыніцах
Парасьцякалася...

Казалі ў Марылькі
Ды радзіны многа...
Сталі каравай дзяліці—
Няма нікога...
Дзе-ж тая радзіна
Ды падзявалася?
Па ўсіх куточках
Пахавалася"...

(*Падарыўшы маладую, ачышчаюць стол*)...

**Зяноўя**—Садзецеся-ж за стол на дарогу павячэраць... (*За стол лезуць да тых, хто сядзіць там, брусьнік, музыка і іншыя госьці... П'юць і закусваюць*)...

**Язэп**—Што-ж гэта наша Марылька не тая—сядзіць, як сьвятая... Вочкі глядзяць несамавіта, ды шыйка намётам павіта...

**Зяноўя**—Да ўжо, сватка, сабралі Марылю ў вялікую дарогу, апошні ўжо разок сядзіць яна за сталом у роднага таткі... (*Марыля плача, Лявон увесь час сядзіць, як вады у рот набраўшы, дружкі пяюць*):

„Аставайся, мая мамачка, здарова—
Здарылася проціў ночачкі дарога...
Да ці будеш, мая мамачка, бедаваць,
Як я буду на чужыначцы гараваць?..
Да ці будзеш, мая мамачка, тужыці,
Як я буду на чужыначцы служыці?.."

**Язэп**—Ну, годзе вам ужо, годзе... Паедзем—мо' разьвяселімся ў дарозе...

**Зяноўя**—Кум Цімох, ідзі сюды—Марылю ў дарогу выпраўляць... (*Цімох падыходзіць да стала*).

**Язэп**—Ну, сват і свацьця, благаслаўляйце сваё дзіцё, хай яно ідзе на новое жыцьцё...

(*Вылазяць з-за стала... Бацька бярэ ікону і благаслаўляе ёю Марылю, яна кідаецца матцы на шыю і абедзьве плачуць*)...

**Зяноўя** (*разьнімаючы*). Ды годзе ўжо... Трэба прывыкаць... З усімі намі было так...

(*А каля ложку даўно ўжо цікуе брусьнік, каб як выкрасьці пасьцель маладой, якая ўжо зьвязана... Аўгіньня з другою свацьцяю пільна сачаць за гэтым, каб садраць з брусьніка за пасьцель... Але ў час разьвітаньня маладой яны зацікавіліся гэтай справай і не заўважылі, як Зьмітрок схапіў пасьцель... Кінуліся яны з крыкам за ім, але таго і сьлед прастыў*...

**Аўгіньня** (*да таварышкі*) Вось і лаві цяцер... Варона!..

**Другая свацьця**—Дык ты-ж бліжэй сядзела... Чаго-ж сьлюні сваe разьвесіла...

**Зяноўя**—Кіньце вы глупствам займацца... Маладую выпраўляюць у дарогу, такая часіна настала, а яны сашчапіліся грызьціся... (*Тыя змаўкаюць... Марыля да хаты галосіць*):

„А хатачка-матачка,
А не жыці ў табе...
А ложачак-братачка,
А не спаці на табе...

(*Лявон бярэ Марылю за руку і вядзе на двор, дзе зьвіняць званкі, музыка грае марш, а дружкі сьпяваюць*):

„Настала тая гадзіна,
Што не жаласьліва радзіна...
Да не жаласьлівы татачка:
Ён процiў ночы ўпраўляе,
Мне праваднічка не дае,
Да і сам за мною не едзе...
Дзе-ж мне, маладзе, ноч начаваць?
Ці мне, маладзе—на вадзе,
Ці мне, маладзе—ў сенажаці,
Ці ў сьвякраткавай караваці...
Да калі на вадзе—рыбкаю,
Да калі ў сенажаці—вуткаю,
Да калі ў караваці—дзеўкаю"..

(*Марыля галосіць на дварэ*)...

Заслона.

## ДЗЕЯ V.

*У бацькоў маладога... Прыбраная хата... За сталом некалькі гасьцей: бацькі Лявона тупаюць каля стала і частуюць гасьцей...*

### ЗЬЯВА 1-я.

**Сьвякруха**—Я ўжо дык прачакалася сваёй нявехны... Кажуць ганаровая... Можа, Лявон так доўга перапрашае, што вельмі позьняцца... Хаця-ж-бы патрапіць гаварыць з ёю...

**Наста**—Кума, я дзіўлюся, як гэта ты, не бачыўшы і не жыўшы яшчэ з нявесткай, так ужо гаворыш аб ёй... Мала чаго людзі наплятуць... Я ведаю, шмат каму жадалася бачыць сваіх дачок за Лявонам... Вось цяпер і выдзіраюць усялякую нікчэмнасьць... Пажывеш, пазнаеш, тады будзеш і гаварыць...

**Сьвякруха**—Як, кумка, ні кажы, а не势 стануць людзі дарма языкі мазоліць... Ды што тут ужо таіцца: не жадалася мне, каб Лявон лез у радню к Цімаху...

**Наста**—А я дык рада-б была мець Цімаха сваім сватам... А... ды што гаварыць, як мне добра вядома, Лявон надта спадабаў Марылю... Вось хай і жывуць шчасьліва, а вам застаецца толькі глядзець ды радвацца...

**Сьвякруха** (*махнуўшы рукою*) Э, парадуешся... Ёсьць ад чаго... Вунь што расказваюць пра вясельле... Сарамата!.. Зьвязаўся з гэтай Параскай Пятруковай, а тая ўрываецца ў хату і пры людзях гародзіць чорт ведае што... Гэта-ж, калі праўда, дык страх падумаць: Параску цяжарную кінуў, а тут і гэту не парожнюю прывязе... Ой, матачкі мае, што гэта робіцца зараз на сьвеце...

**Наста**—Яно праўда, трэба было ўжо першы грэх прыкрываць... Ну, але-ж гэтага зараз ужо не пераробіш... Значыцца, і гаварыць няма чаго...

**Сьвякруха**—Яно так, але-ж, каб Марыля была сумленная жанчына, дык не пажадала-б сьлёз людзкіх... Не станавілася-б папярок дарогі Парасцы...

**Наста**—Ну, мая любая, як табе сказаць: дзе там ужо думаць аб сумленьні, калі яно абманена... Прыкрыўшы грэх з Параскай, скора выявіўся-б грэх з Марылей... Чорт яго тут і разьбярэцца з бабскай галавой...

**Сьвёкар**—І вясельле толькі дзеля людзей спраўляю... Сказалі-б яшчэ, што скнэра: аднаго сына мае, а вясельля не справіў...

**Наста**—Дык і кум туды-ж палез... А я думала, што толькі мы, бабы, усё круцім да муцім... Ажно ёсьць і з мужчын не хужэй нас... А няхай вас кот убрыкне!..

(*За вакном далёка пачуліся званкі і музыка, вялікі гоман народу... У хаце ўсе ўсхватваюцца і падыходзяць да вакна*).

**Наста**—Вось і прычакалі... (*Кабеты папраўляюць хусткі на галовах і носяць на стол закуску... Потым маці з бацькам бяруць хлеб і ікону і ідуць да дзьвярэй... Матка накідае на сябе кажух воўнай наверх... З двара ўжо нясецца песьня*:

„Выйдзі, мамачка, паглядзі,
Што табе баяры прывязьлі...
Да не нашых садоў кветачку,
Да не нашых дзевак дзевачку...
Вішнёвага саду кветачку,
Із чужога краю дзевачку...“

**Наста**—Кума, а дзе-ж дзяжа?.. Трэба-ж падставіць маладой...

**Сьвякруха**—Там, у сенцах, на лаве...

(*Бацька, маці і Наста ідуць у сенцы, адкуль зараз-жа нясецца*: „Добры вечар, бацька і маці! Прыгледзьцеся к свайму новаму дзіцяці“... (*У хату ўваходзяць*: *сьвёкар, сьвякруха, Лявон, Марыля, Наста, брусьнік, музыка, дружкі і шмат народу*)...

**Сьвякруха**—Благаслаўляю вас, дзеткі, хлебам-сольлю... Жывеце так, як самі зажадалі...

(*Марыля нясьмела падыходзіць да сьвякрухі і цалуе ёй ў руку... Сьвёкар благаслаўляе іконаю, яму Марыля таксама цалуе ў руку... Далей маладая бярэ ў дружкі рушнікі, разварачвае іх, лезе на лаву і вешае на іконы... Усе кабеты і дзяўчаты пільна прыглядаюцца к рушнікам*)...

**Сьвякруха**—Паглядзі, кумка, паглядзі, якія рушнікі ў маёй багатыркі... Няма чаго сказаць, работніца!.. У мяне старой, а даўжэйшыя і танейшыя... Паглядзім-жа, якія падушкі і пасьцілкі... (*Падыходзяць да ложка, дзе ляжыць толькі што пасланая пасьцель аднэй з дружак, і тоўхае падушкі*)...

**Сьвякруха**—Гм... відаць, што гусіныя, але тых, знаць, гусей, што разам з курамі пасьціліся...

**Наста**—Кінь ты, кума, пры людзях!.. Што гэта ты робіш? Не пасьпела нявестка парог пераступіць, а ты ўжо ворагам яе робішся...

**Адна з кабет**—Але чаму гэта маладая на дзяжу не скочыла? Няўжо такі праўда тое, что людзі кажуць?..

**Наста**—Яшчэ і табе вось трэба ўваткнуць сюды свой нос... Якое табе дзела, як хто што робіць... За сваімі дочкамі глядзі, аднак у цябе іх аж чатыры...

(*Кабета адварачваецца, як мыла зьеўшы*). Кума, садзі гасьцей за стол, а то няпрыемна ім так стаяць...

**Сьвякруха** (*падыходзячы да стала*). Дык садзецеся, дзеткі, за стол... Пасьля вялікай дарогі павінны-ж закусіць. (*Усе прыехаўшыя садзяцца за стол*)... Сынок, ты-ж прыганяй сваю новую гаспадыню, бо я, старая, можа, і не патраплю... (*Гэтыя словы колюць Марылю ў самае сэрца, яна апускае галаву... Маці налівае тры чаркі, дзьве падае маладым, а адну бярэ сама*). Ну, нявехначка, прабачай, што не салодкім цябе частую: не было часу дастаць—вельмі нечакана цябе да сябе прыждала (*Марыля сядзіць белая, рука яе, у якой знаходзіцца чарка, дрыжыць... Яна нямнога адпівае*)...

**Сьвякруха**—Э, відаць, што мая нявестка пястуха: горкага не хоча...

(*Частуюцца; Марыля сядзіць ні жывая, ні мяртвая, пачуўшы нешта нядобрае з боку сьвякрухі... Кабеты пяюць*):

„Ой, ясная зорачка, усё неба схадзіла...
Стала сабе каля месяца,
З месяцам размаўляе:
„Месячык мой ясьненькі,
Да ці будзеш так ясны,
Як я, ясна зорачка?..“
— „Зорачка, мая сястрыца:
Ой не быці-ж мне ясным,
Як ты, ясная, ў небе“...

Маладая Марылька, сені-хату схадзіла,
Стала сабе каля караваці
З сьвякрухаю размаўляці:
„Сьвякруха, мая мамачка,
Да ці буду-ж так міла,
Як сваё да дзіцятачка?..“
— „Дзіцятка маё маладое,
Хоць бы ты шоўкам шыла,
Дык не будзеш так міла,
Як сваё да дзіцятачка,
Як сваё да раджонае...
Ты-ж ў мяне да суджонае“.

**Сьвякруха**—Да ўжо-ж песьціць не прыдзецца... Даволі ў мяне і свайго клопату, а прытым пара ўжо і адпачыць... Забяруся вось на печ і буду ляжаць... Можа, нявестка не пашкадуе хлеба з вадою падаць... (*Нядобрымі вачыма глядзіць на Марылю, тая з сьлязьмі на вачох апускае галаву*).

**Язэп**—Відаць, што сьвякроўка не родная мамка: ад яе ласкі на вачох у нявехны сьлезкі... Але-ж ці намі гэта пачынаецца?.. Заўсёды так здараецца, што сьвякруха і нявестка пачынаюць жыцьцё кепска...

**Наста**—А навошта свату чаўпці наперад нямаведама што... Будуць так жыць, як ім спадабаецца... А другім да гэтага, мне здаецца, няма аніякага дзела...

**Язэп**—Дык чаго-ж гэта маці хросна на мяне сёньня так злосна?.. Хіба я бяды жадаю, альбо злое намаўляю?.. Хай жывуць у поўнай згодзе... Ды аб гэтым ужо годзе...

**Наста**—Калі годзе, дык і добра... А зараз трэба даць людзям супакой...

**Язэп**—Во, разумны, бабка, рэчы—трэба пхнуцца ўжо да печы... Трэба костачкі сагрэць, каб і заўтра не зблышэць...

**Наста**—Ды ці гэтакому латаку што пашкодзіць?.. Я думаю, пяць вясельляў згуляў-бы запар?..

**Язэп**—Не, старэнька, ўжо не тое, як калісь было якое... Ногі гнуцца ўжо не так, язык меле не 'к латак...

(*Народ выходзіць з хаты... Госьці вылазяць з-за стала і дзякуюць гаспадарам*)...

**Язэп**—Ну, дабранач гаспадарам, трэба кратацца і нам...

**Гаспадары**—Бывайце здаровы... Дык на заўтра-ж, госьцікі, зноў просім да сябе... (*Госьці дзякуюць і выходзяць... Застаюцца бацькі маладога, Марыля, Лявон і дружкі*).

**Сьвякруха** А вы, дзевачкі, можа, на сена пойдзеце спаць?.. У хаце душна і цесна.

**Ганна**—Вы не клапацецеся, нам добра і там будзе...

**Сьвякруха**—Ты, Лявонка, правядзі іх у гумно... (*Дружкі з Лявонам выходзяць з хаты*)...

**Сьвякруха**—Ну, нявехначка, глядзі-ж каб заўтра пастухоў не праспала: сорам вялікі будзе сялом даганяць... У мяне гэтага ніколі не здаралася...

**Марыля**—Добра, мамка, я пастараюся. (*Бацька і маці выходзяць, Марыля заліваецца сьлязьмі, і ад вялікага жалю не можа выгаварыць нічога, толькі моцна ўзрыгвае... Уваходзіць Лявон... Убачыўшы плачучую Марылю, ён падыходзіць да яе*).

## ЗЬЯВА 3-я.

**Лявон**—Чаго-ж гэта так разгорнілася?.. Можа, маці пакрыўдзіла?.. (*Марыля нічога не адказвае, а яшчэ больш пачынае плакаць*)... Ну, паплач—лягчэй стане... (*Закурвае і садзіцца на лаве ля вакна... Доўгая павуза... Марыля пачынае супакойвацца*).

**Лявон**—Ну, дык чаго ты плакала?..

**Марыля** (*ціха*) Пытаешся?..

**Лявон**—Пытаюся, бо не бачу прычыны твайго плачу...

**Марыля**—Тут і прыглядацца не трэба: усё і так добра відаць... Як сустрэла мяне твая матка?.. Не дала парог пераступіць, а ўжо засыкала на мяне гадзюкаю... Памятаеш, што калісьці ты мне казаў: „Што табе за дзела, як будзе глядзець на цябе мая матка, абы я любіў цябе“... Але ж пасьля сёнешняга здарэньня ў нас, я бачу, што ты зьмяніўся і адносна мяне... Я не пачула ад цябе ніводнаго яшчэ слова, як пераступіла парог тваёй хаты... Што гэта ўсе значыць?.. Выходзіць, што я і ў табе памылілася...

**Лявон** Не ведаю я сам, што са мною робіцца... Гэта праклятая Параска жыцьцё атручвае... Як яна асарамаціла мяне на вясельлі!.. А цяпер?.. Думаешь, прыставаньні яе скончыліся?.. Мне здаецца, яна пачынае ўжо вар'яцець... Піць пачала... Ад яе можна чакаць чорт ведае чаго...

**Марыля**—Чаму-ж ты мне тады, раней, не сказаў аб усім?.. Я цябе так прасіла... Я табе так верыла!.. Выходзіць, што ты не шчыры... што ты... не асьмелюся сказаць...

**Лявон**—Можаш усё гаварыць...

**Марыля**—Хіба дзеля цябе зараз усё роўна, што-б ні казалі аб табе?.. Лявон, ты пужаеш мяне...

**Лявон** (*сьмяецца*) Баішся, дык людзей пакліч... Хаця ў першую шлюбную ночь і не варта было-б...

**Марыля** (*бялее*) Як ты гаворыш аб першай шлюбнай ночы...

**Лявон**—Э, чаго там шмат гаварыць: даўно ўжо мінулась наша першая шлюбная ноч... Згойшалася ўся пяшчотнасьць, вабнасьць гэтай ночы... Засталіся звычайныя ночы, калі проста трэба ісьці адпачываць, што і зараз раю зрабіць, бо тры ночы не прышлося і вокам зьвесьці...

**Марыля** (*парушаная*) Дык я табе ўжо абрыдла?.. Стала звычайнаю?.. Можа, нават, Параскаю?.. (*Глядзіць з страхам яму ў вочы*).

**Лявон**—А хіба не ўсе жанчыны роўныя?.. Толькі і розьніца, калі, сьвежанькая, некранутая... (*Загараюцца вочы*)...

**Марыля**—Пакінь, Лявон... Мне гадка робіцца ад тваіх слоў... Значыцца, ты ліп да мяне, пакуль я, як ты кажаш, сьвежанькая была?.. Дык навошта-ж табе было жаніцца?.. Трэба было падумаць аб тым,

што жонка не можа быць заўсёды такою, як табе жадаецца... Хай-бы яшчэ сасмушчаў... Хіба мала Парасак, Марыль?..

**Лявон**—Гаспадаркі не хопіць на ўтрыманьне байструкоў...

**Марыля**—Значыцца ты мяне ўзяў толькі дзеля таго, каб я ратавала тваю гаспадарку?..

**Лявон**—А, чаго там разважаць... Спаць пара (*пазяхае*)... Заўтра трэба ўставаць рана... (*Укручвае агонь і пачынае разьдзявацца... Марыля сядзіць з паніклай галавою*).

**Лявон** (*падлазячы пад коўдру*)... Не сядзі, кажу... Ужо за поўнач.. (*Марыля ўстае з лавы, падыходзіць да ложка, бярэ адну падушку. нясе на лаву і лажыцца*)...

**Лявон** (*сонны зусім*)... Ого, першую ноч... і розна!.. (*Засынае... Марыля схавалася галавою ў падушку і горка плача... Доўгая павуза... Знадворку адчыняецца вакно, якое забыліся ўзяць на зашчэпку, і выглядае твар Парaскі... Яна абводзіць вачыма хату, бачыць, што дзеецца, і твар яе выяўляе зьдзіўленьне .. Потым яна нячутна адчыняе шырэй вакно, улазіць у хату і на дыбачках падыходзіць да ложка... Спынілася, і шукае чагосьці за пазухай... Дастае бутэлечку, з якой лье нешта на пасьцель*)...

**Лявон** (*дзіка*) Ай!.. Ай!!! Ратуйце!..

(*Параска кідаецца ў вакно, Марыля ўсхватваецца з лавы, бачыць Параску і кідаецца за ёй, схапіла за спадніцу і трымае... Параска тузянулася з усёй моцы; зазьвінела пабітае шкло, і Параска прападае ў цемры... Лявон крычыць... Марыля падбягае да яго*)...

**Марыля**—Чаго ты?.. Што яна зрабіла?.. (*хоча адняць ад твару рукі*)...

**Лявон**—Ай, не чапай!.. Прапаў я!.. Няма маіх вачэй!.. (*Убягаюць бацькі*).

## ЗЬЯВА 4-я.

**Сьвякруха**—Што тут нарабілася?.. Сынок, чаго ты гвалтуеш?..

**Лявон**—Вочы высмаліла... тая гадзіна...

**Сьвякруха**—Чаго-ж ты стаіш, Марыля?.. Скажы толкам...

**Марыля** (*стоячы нярухома*) Параска...

**Сьвякруха**—Вось табе, сынок, і першая ночка шлюбная... Не паслухаў бацькоў... Будзеш старцам на усё жыцьцё...

**Бацька**—Кінь, шалёная, свае дакоры... Ляпей вось сабярэце скарэй Лявона: у бальніцу трэба везьці... Можа, яшчэ ратунак які можна даць...

(*У хаце стала сьветла... Ніхто на гэта не зьвяртае ўвагі, занятые бядою*).

**Сьвякруха** (*глянуўшы ў вакно*) Няўжо-ж гэта Сьцяпан з ліхтаром коні поіць?.. (*Падыходзіць блізка да вакна*). Ай!.. Ай!.. Гарым!.. Людцэ, ратуйце!.. (*Усе забегалі па хаце, хапаючы ўсялякую дробязь... Марыля кідаецца да ложка і зьвязвае пасьцель... На вуліцы крык: „Пожар!.. Пожар!.. Уставайце!..“ Чуцён звон і ўзмацняючыся крык людзей.. Зарава залівае хату... Бацькі выкідаюць праз вокны розныя рэчы... Марыля, як акамянелая стаіць каля зьвязанай пасьцелі... Лявон з закрытым рукамі тварам шукае дзьвярэй; ён моцна стогне... Як адчыніў Лявон дзьверы, у хату ўрываецца страшэнны крык і трэск пажару, якія прыводзяць да сьведамасьці Марылю... Яна хватае клумак і бяжыць у сенцы*)...

Заслона.



# З рынку.

(Апавяданьне).

— Мака-ар?... Ого-го-го!... Здароў, братка...

І ты тут... Чаго, а?...

— Здароў, Язэп... Па справах і я... А як у цябе з кабылай?... Прывёў?... За сколькі?...

— Прывесьці—прывёў... Хочу—шэсьцьдзясят!..

— Н...

— Не даюць, хвароба на іх!...

„ Сорак бяры"!...

— А-а... Шкада... Гэта шкада!... Ну, дык ты-б...

Двое дзядзькоў размаўлялі-б так яшчэ, мусіць, гадзіны з паўтары, каб не аглабля, моцна садануўшая Язэпа „пад мікіткі".

— Куды прэш, гадаў'ё?... Га?...

Кінуў пакрыўджаны Язэп уздагон вялікім палазам Магілёўскага Ц. Р. К.

Але тыя даўно ўжо завярнулі за вугол і зьніклі ў грукаце вуліцы...

Дзень быў сьвяточны.

Рынак галдзеў, бубніў і пляваўся самым markastaйным гоманам.

Гандляркі ў замусоленых кажушкох сядзелі каля кошыкаў з мёрзлымі яблыкамі і дрыжучы грэлі рукі на гаршэчках з жаркім вугальлем.

Нейкія „супчыкі" хадзілі з нізкамі валенкаў паміж розвальняў і голасна размалёўвалі якасьці свайго „цёплага, таннага і носкага" дабра...

Чырвона-жоўтыя бабскія хусткі зусім натуральна мяшаліся з аўчынкавымі шапкамі мужчын.

Халодны ветрык аднолькава ахвотна забіраўся і пад адны, і пад другія...

І было весела яму, буянаму, разнасіць над базарнай плошчай сьвежасьць марознага раньня...

— У мяне, Язэп, таксама тавар ёсьць...

Падумаўшы выклаў, як патаемную думку, Макар...

— А які?...

— Хамуты, вось, значыць... Андрэй што рабіў...

— Сапраўды... А добрыя хамуты! Пакаж, пакаж бліжэй!...

Макар падняў пасьцілку.

Тры хамуты, старанна абробленыя старшым сынам Макара, Андрэем Сіваковым, яшчэ задоўга да каляд,—блішчэлі на санках новай кожай і бляшкамі.

І, гледзячы на іх, Макар зараз мімавольна ўспомніў Андрэя, крукам сядзеўшага над імі некалькі тыдняў, уночы, прыбрудным асьвятленьні капцілкі.

— Нешта... Шкада, нават!... Працы шмат пайшло...

Буркнуў Макар з уздыхам...

— Ну, ну—не шкадуй!... Дзіцё ты, ці што?...

Уздумаў... Хе-хе-хе!... „Шкада“!...

І Язэп затросься ў дробным сьмесе...

— Хамуты?... Хамуты?... падвярнуўся збоку „спэц“,—прадаеш, дзед, хамуты?... Што?...

— Але... Магчыма прадаць...

— Колькі хочаш?... А?...

— Ну, рублёў так па шэсьць... Многа?...

— Па шэ-эсьць?!... Эге!... „Па шэсьць“!

Чаму-ж было да дзесяцёх не дагнаць?... Роўны шчот... Траячку бярэш?...

— Не, даражэнькі... Нельга!... Гэта-ж...

— Ну—чатыры!?... Ну?... Што?.. За гэткія хамуты не хочаш чатырох рублёў?...

Лепш бяры, а то зусім пайду...

— Добра ўжо... Так... Што зробіш?...

Бяры... Амаль—за дарма, бо грошы патрэбны...

— „За дарма“! Глупства я раблю, што ўзяў... Ну,—няхай валяюцца!... Атрымлівай капітал!

Э-эх...

Калі суседзі ехалі назад, у Русінаўку, у аднаго не было і паху кабылы, як у другога не было хамутоў...

Язэп Лакіза - нявысокага росту селянін з курчавай войстрай барадзёнкай і маленькімі вачмі—нешта ўпэўнена даводзіў Макару...

— Ды як раз міма і паедзем...

Хата яго, ведаеш, такая... Сьвінушнік..

А затое піва, як добры мёд...

— Можа не варта?... А?... Я-ж і хамуты прадаў дзеля гэтага... Каб, значыць, дочцы дапамагчы... Яе мужык, бачыш, памёр...

Ну... зноў-жа па гаспадарцы трэба...

— Так яно так... Але-ж—латыскае!...

Потым, братка,—я табе скажу—лепш, калі настрой у чалавека... Хоць ты-й бядней іншых, а настрою не сьмей губіць... Так!..

Разумееш?.. А для настрою гэта неабходна...

— Настрой, кажаш? Гэта праўда...

Зараз пад'едзем... Глядзі па левым баку...

Хата Ягора Крывіцкага прыляпілася як раз да антонаўскага выгану...

Маленькая, цёмная, як асеньні грыб, з хітрымі бельмамі вакон пад белай шапкай даху.

Дзядзькі разы тры стукнулі ў шыбу.

Заскрыпелі вароты і ў шчыліну глянуў хлапец гадоў дваццацёх; абарваны і нячэсаны.

— Ну... чаго прыпёрлісь?...

— А ты, малы, лягчэй... Ага... Піва ё?

— Пі-і-ва?... Хто-ж зараз піва п'е, увечары?

— У цябе не пытаюць... Кажы, піва прадасі?...

— Хто ведае... Напэўна—можна будзе...

Заходзьце, ну...

Вароты зноў рыпнулі, і Макар з Язэпам апынуліся на шырокім двары, па якім валялася ў рыжым сьнягу салома і няпрыбраныя гнілыя бярвеньні. Макар накіраваўся ў хату, а Язэп з хлапцом пайшлі да напалову зруйнаванай пуні, што тырчэла вялікай цёмнай кучай недзе на задворках...

У пуні, на дзьвух тоўстых паленьнях, стаяла вялізарная бочка з жалезнымі абодзьдзямі і дубовым „шпунтам“.

— Учора прывязьлі ад латышоў... Вельмі п‘янае!..

У маленькім пакою Крывіцкага было цьмяна, сыра і халодна.

Але клопатамі гаспадара хутка было зроблена так, што „суседзі“ адчулі сябе, нібы знаходзячысь у бані...

Пачырванелі, расьпразаліся і сталі моцна вясёлымі.

— А ты ведаеш, Макар... Я цябе і пацалаваць магу... Далі бог!... Хоць і зараз...

А ты... ты... трымайся!...

Макар сядзеў і „трымаўся“...

Галава не слухала Макара і ўсё імкнулася адпачыць то на адным, то на другім плячы...

Боўць... Боўць...

— Ца-алаваць?!... Кінь... кінь... Ты-б, лепш, з жонкай... Ведаеш?... Значыць...

Пры ўспаміне аб жонцы—у Макара паўстала цэлае мора пачуцьцяў...

— Перапёлачка мая!.. Кацярынка... А ты зараз без мяне... Значыць, адна!... Чакаеш... І сьлёзы аб жаночай пакуце горкім туманам зачынілі вочы Макара...

Потым ён спыніў іх і агледзіўся...

У галаве—моцныя гарбары білі ў некалькі малаткоў...

Ружовыя сьвечкі мільгацелі перад вачыма...

І ніяк не можна было ўявіць, чаму ў пярэднім куце рука апостала Паўла з такой пагрозайківала яму...

Прадраў вочы Макар ураньні, ва ўласнай хаце. Ляжаў ён побач з сваёй Кацярынай, але, чамусь-ці, не распрануўшысь....

У вакно нячутна пазіралі скамячаныя зімовыя праменьні...

Хрустаў сьнег... Прасыналася вёска...

І было дзіўна Макару, чаму ўсё навокал так добра наладжана, заведзена, а ў яго жыцьці пануе няўрадзіца і сумота...

У дадатак—войстра цьвікала думка аб праданых хамутох...



**Міхась Ланда.**

# Помста.

(Урывак з апавяданьня).

Гаўрыла не спаў. Чорныя злосныя думкі палілі яму галаву... Зьмяя падколодная грызла сэрца... Цэльны год... Цэльны год марыў ён стаць старшынёй каапэрацыйнага праўленьня, рыхтаваў глебу асьцярожна, абдумана, аглядаючысь...

І вось калі, прыйшоў рашучы момант—перавыбары—з сорамам праваліўся...

Праваліўся... Праваліўся...

Якое жудаснае, паганае слова!..

А праваліў Сямён... Вось... вось і Гаўрыла быў-ба у заветнай мэты. З сорамам праваліў... Прад усім сходам сказаў, што ён, Гаўрыла Цьмянкоў, нясумленны чалавек і сын кулака.

Старшынёй абралі дэмабілізаванага чырвонаармейца Акуневіча, а Сямёна сябрам—камсамолец... Нутро гарэла цяплом помсты Сямёну. Вужакай мільганула думка—падпаліць...

— Падпаліць, падпаліць...

Гаўрыла паціхоньку падняўся з ложка, апрануўся і выйшаў з хаты.

На дварэ было цёмна... Пялёнкі цемры акуталі густой чарнатой усю вёску. Неба хмурнае было заткана кудзеляй сярдзітых хмарак, з-за якіх на хвілінку выглядваў бляды і сумны месік, хаваючысь зноў у іх чорную коўдру. Чувалась прыбліжэньне дажджу. На вуліцы не відна было ні воднай жывой душы, толькі на адным з канцоў вёскі, надрываючысь, выў сабака.

Гаўрыла поперак перайшоў вуліцу і апынуўся каля Сямёнавага двара, які быў яго суседам. Рукі мімаволі дрыжалі, калі Гаўрыла нашчупваў запалкі.

Выбег Сямёнаў сабака і сабіраўся заліцца брахнёй, але, узнаўшы Гаўрылу, завіляў хвастом і адыйшоў. Зайшоўшы з другога боку, Гаўрыла узьлез на прасла і дрыжучай рукой кінуў гарашчую запалку ў саломенны дах пуні.

І, не ведаючы зачым, хутка накіраваўся за вёску па напрамку к лесу.

Гаўрыла праз некалькі хвілін апынуўся за вёскай, сярод поля; азірнуўшыся назад, ён убачыў невялікае зарава. Загарэлась пуня. Затым пачуліcь крыкі. Між тым забарабаніў дождж, добры, пранімаючы да касьцей. Пры дапамозе дажджа пуню хутка затушылі і разышліся сяляне па хатах, мяркуючы: „хто гэта мог падпаліць?!“

Гаўрыла ішоў і ішоў. Дайшоўшы да лесу ён прытуліўся да высачэннай асіны. Галава гарэла страшнымі думкамі. А навакол глуха і сумна шапацеў лес, апавядаў полю пра нешта сумнае і страшнае. На небе невядома куды і зачым плылі сярдзітыя хмаркі: шлях, быў заткан чорным кужалям ночы.



## На кніжнай паліцы.

„**Маладняк**", часопіс, **№ 10**, цана 60 кап., г. Менск, 1926 г.

Адчыняецца № 10 „Маладняка" эскізам Ал. Дудара „Спатканьне". Тэма тута ўзята аўтарам глыбокая, але не зусім арыгінальная.

У досыць рамантычнай вопратцы даецца спатканьне рэвалюцыянэра з прастытуткай у адну з цьмяных беларускіх начэй недзе на акраіне гораду. (Як відаць—у часы акупацыі).

Аўтар укладае ў зьмест размовы гэрояў пачатак невядомых праблем; вядома, прымушае гэраіню апавядаць аб сваім жыцьці, як дайшла яна да „жизни такой" і інш, у рэшце-ж зыходзіцца з ёю, як і дзясяткі „грэшных" людзёў да яго.. Сюжэт і нават формальная пабудова эскіза напамінаюць аб значным уплыве М. Горкага („Одна ночь").

Крыху шкодзіць поўнаму ўражаньню некаторая шурпатасьць вобразаў—„неба шалушыцца эмальлю" і інш.

Наогул-жа „Спатканьне" зроблена мастацкі, і чытаецца з нямалым захапленьнем.

Як і заўсёды, вызначаецца сваёй мастацкай вытрыманасьцю В. Каваль у легэндзе аб кветцы „брат-сястра„...

Рытмічныя амаль сказы ён перамяжае з урыўкамі народных песьняў, што робіць невялічкую легэнду яшчэ больш цікавай.

Трэба зазначыць, што ў гэтым № „Маладняка" зьмешчана даволі шмат дзявоцкіх вершаў: Вішнеўскай, Пфляўмбаўм і Маркавай. Музычнай пачуцьцёвасьцю асабліва поўны верш апошняй („Сінь васільковая").

Аддзел „З чужаземнай літаратуры" кульгае на ўсі чатыры...

Напр. навошта было Дудару перакладаць Альфрэда Мюссэ, буржуазнага лірыка, рамантыка чыстай вады?...

У параўнаньні з папярэднімі № 10 „Маладняка" мае больш каштоўны грамадзка-палітычны разьдзел.

Затое бібліяграфічныя рэцэнзіі тута зусім слабенькія... Трэба лічыць, што больш шчыры ўдзел у часопісу з боку акруговых філій „Маладняка" значна павысіў-ба яго грамадзкую якасьць. Бязумоўна. трэба лічыць хворым зьявішчам тое, што да апошняга часу ў „Маладняку" друкуюцца, амаль выключна, менскія сябры...

*Юрка Лявонны.*

---

**Юрка Гаўрук**. „Вясковыя рыскі" выданьне Ц. Б. „Маладняка" цана 25 к. 77 старонак. Менск 1926 году.

У апавяданьні „Вясковыя рыскі" Гаўрук дае нарыс вясковага жыцьця ў жніво, але нарыс даволі павярхоўны. Аўтар не змог увайсьці ў жыцьцё вёскі, у яе нутро, успрыняць яе перажываньні, адгэтуль вынікае блядая абмалёўка гэрояў. Асабліва рэльефна выступае гэта павярхоўнасьць у адносінах сялянства да аўтара: Вось, напрыклад, баба, якую ён сустрэў на грэблі, зусім яму незнаёмая, пасьля двух-

ртэх слоў адчыняе аўтару ўсю сваю душу. Таксама і адносіны другіх гэрояў. Атрымовуваюцца нейкая ідылічнасьць, нежыцьцёвасьць, малюнку. Найбольш яскрава ўяўляецца Хвядора. Гэта ўпоўне закончаная фігура, але не тыпічная. У вёсцы даволі рэдка сустракаюцца гэткія натуры менавіта ў такім яскравым праяўленьні, як гэта прадставіў Гаўрук. Язык просты, зразумелы, прыстасаваны да шырокіх колаў сялянства, але гэта прастата асабліва ў апісаньнях, якіх даволі многа, зацямняе мастацкасьць. Некаторыя месцы паражаюць сваёй натуральнасьцю, ад іх пахне сапраўднай вёскай з яе песьнямі, казкамі і павер'ямі. Ёсьць многа і слабых месц, прыкладам, размова аб пагодзе, гэта ўжо—надта шаблённа. Наогул па мастацкасьці, твор стаіць невысока. У заключэньне можна сказаць, што апавяданьне Гаўрука гэта—неглыбокія „Вясковыя рыскі“, а не сапраўдныя рысы вясковага жыцьця.

*Янка Расчухраны.*



# ЗЬМЕСТ.

